

Наша гара Фавор → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Спасаўскія запусты → 8


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 36 (3147) Год LXI | Беласток, 4 верасня 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Запознены біблейны цягнік

— Міша, ці моцна хвалюешся як мадэратар Трыялогу? — запытаўся я ў **Міхася Андрасюка**, калі толькі сеў у ягоную машыну, на якой заехаў ён за мною ў чацвер, 25 жніўня, у Беласток па дарозе ў Крынкі.

— Каб ты ведаў, ужо месяц часу па шэсць-сем гадзін сяджу ў інтэрнэце і чытаю пра тое, што адбываецца ў шматканфесійным жыцці Беларусі. Ой, нялёгка ва ўсім гэтым разабрацца, — адказаў ён у творчай разгубленасці.

Дзякуй Богу, што ў гэтым задуменні дарога з ягонай роднай Войнаўкі ў Сакратавы Крынкі прайшла без большых збояў. Як ён сам любіць жартаваць: «Калі Яновіч вызначыўся з Вілай Сакратэс, то я потым перабраўся ў аазісную Хату Мішы». З Войнаўкі ў Крынкі пад 120 кіламетраў. Неблагая расцяжка беларускага лёсу, мовы і слова. Для пісання.

Год назад Міхась Андрасюк выступаў у якасці ўдзельніка дыскусіі ў літаратурнай частцы Трыялогу, а зараз прыйшлося яму ў напружанасці правесці тры розныя дыскусіі з інтэлектуаламі рознага тэмпераменту. Выбар арганізатарамі Міхася Андрасюка ў якасці вядоўцы лічу вельмі добрым ходам, дзякуючы чаму відавочная была і канцэпцыя паасобных блокаў, і элегантная рэакцыя на бягучыя падзеі, таксама ў асабістых рэфлексіўных запытах. Тое, што мадэратарамі дыскусіі з'яўляюцца падляшскія беларусы (у мінулым годзе з гэтым выклікам справіўся **Мікола Ваўранюк**), якія як роўныя з роўнымі гавораць з інтэлектуаламі і Усходу, і Захаду — гэта менавіта не толькі адна з мар, але і запавет **Сакрата Яновіча**. Таму лічу, што пакуль наш, беларускі ў Польшчы, патэнцыял не ссечаны да канца, такой традыцыі трэба трымацца.

Вельмі цэннай і каштоўнай ініцыятывай было выданне адмысловага, прымеркаванага да сёлетняга Трыялогу інфармацыйнага бюлетэня, у якім на польскай і беларускай мовах былі змешчаны тэксты: Яновічаў «Ці Бог не разумее па-беларуску» з 1981 г. і свежанькае эсэ **айца Кастуся Бандарука** «Дайма Богу шанц». Якая дзіўная наша пані Гісторыя! Пытанне Яновіча 35-гадовай даўніны, тады вельмі актуальнае для аўтахтонаў Беластоцкага краю, зараз паўстае быццам шэкспіраўскае быць ці не быць для ўсёй беларускай дзяржаўнасці і народу! Асабліва ў кантэксце 25-годдзя прыняцця 25 жніўня 1991 г. Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь дэкларацыі незалежнасці Беларусі. Таму пашана і павага **Лявону Тарасэвічу** — старшыні фонду «Віла Сакратэс» за інтуітыўнасць у адвядзенні гэтай тэме галоўнага месца ў час XVII Трыялогу, які прайшоў у Крынках 26 і 27 жніўня.

Адным з гасцей Трыялогу ў гэтым годзе быў знакаміты пісьменнік **Уладзімір Арлоў**, які менавіта 25 жніўня святкуе свой дзень нараджэння. Таму 25 жніўня вечарам у Сакратавым доме ўсе яго віншавалі. Уладзімір Арлоў і выступаючы на Трыялогу старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў **Барыс Пятровіч Сачанка** начавалі ў Крушынянах, у якіх жа таксама 25 жніўня, але 1932 г., нарадзіўся знакаміты беларускі паэт **Пятрусь Макаль**. Ён, як і большасць крушынянцаў, паверыў у 1946 г. у савецкі рай, у якім на «добры дзень» ягонаму бацьку ўляпілі дзесяць гадоў ссылкі ў Комі за тое, што гаварыў пра пабачанае ў краіне шчаслівасці. Пра тое распавялі нам крушынянскія старажылы, сумуючы па сваім земляку і ягонай заўчаснай смерці пры канцы жніўня 1996 г. Беларускі лёс крынкаўска-гродзенскай прасторы, так апісваный Сакратам Яновічам, яшчэ раз метафізічна пераплёў усіх у ягонай роднай хаце. З недалёкага ад Крынак і Крушынян Астраўка родам айцец Бандарук. Падрыхтаванае ім да Трыялогу-2016 эсэ з апісаннем асабістага, эміграцкага лёсу беларускага святара з Беласточчыны, з'яўляецца самым найлепшым адказам на пытанне і заклік свайго сябры і земляка, якія прагучалі ў 1981 г. Сам айцец заўсёды падкрэслівае, што ён — толькі вучань Сакрата, але ўсё гэта з-за чалавечай сціпласці. Шкадую, што не мог я паслухаць Кастуся Бандарука ў ролі аднаго з удзельнікаў панэльнай дыскусіі. Думаю, што сказанае ім пра праблемы заіснавання і ўмацавання беларускай мовы ў Польскай праваслаўнай царкве значна больш пашырыла б кругагляд панэлістаў і слухачоў, чымсьці геапалітычныя анекдоты пра ўзброеныя гонкі міру, ці дыялектылагічныя дыскусіі паміж Ружай Люксембург і Сталіным, ці ролі Камуністычнай партыі Польшчы і Сакрата Яновіча ў прыдуманні беларусаў у Польшчы. Сёння для ўсіх нас стварэнне фантома праваслаўнага паляка гэта ажыццяўленне чорнага Сакратавага сну.



Фота www.racyja.com

Злева: Міхась Андрасюк, Лявон Тарасэвіч, Барыс Пятровіч, Уладзімір Арлоў, айцец Кастусь Бандарук



Фота www.racyja.com

Злева: айцец Георгі Рой і ксёндз Сяргей Сурыновіч

Мабыць, ёсць у тым можа і нейкая чорная магія, перад якой напэўна абараніўся **Андрэй Лянкевіч**, які вечарам у пятніцу ў крынкаўскай галерэі (**Павал Грэсь** вельмі ганарыўся толькі што завершаным рамонтам памяшкання) афіцыйна адкрыў Трыялог выстаўкай «Паганства». Фотаздымкі Андрэя спадабаліся мне гарманічнасцю прыродна-чалавечага ўвекавечання. Пры цёмна-белых фатаграфіях адчувалася нейкая светласць. Наступнага дня ў час перапынкаў у панэльных дыскусіях я некалькі разоў заходзіў у галерэю толькі сам, каб у адзіноце і цішыні ўявіць і прыпісаць яшчэ да пабачанага гукі. Надвор'е ў час сёлетняга Трыялогу выдатна спрыяла рэфлексіі ў сонечных прамянях прамінання. Колеры графічнага знака Трыялогу ігралі таксама паміж вяргінямі пры Сакратавым доме і пахам цяпла крынкаўскай даўніны. Блукаючы некалькі разоў вакол крынкаўскага парку і ўзгадваючы пастаўлены там спектакль «Антыгона», у мяне з'явілася натуральная, чалавечая патрэба выказаць самыя простыя словы малітвы: «Божа, дзякую за прыгажосць зямлі гэтай і людзей тваіх». Некалькі слоў па-беларуску.

Па-беларуску і пра беларускую літаратуру, культуру, рэлігію ў суботу, 27 жніўня, з дзясятай да шаснаццатай з перапынкамі прайшлі тры панэльныя раўнды, ад якіх апрача атрыманых ведаў, рэфлексіі ў маёй галаве ўзнікла яшчэ больш пытанняў, чымсьці атрыманых адказаў. На пачатак выступілі згаданыя ўжо Барыс Пятровіч Сачанка і Уладзімір Арлоў ды **Павал Севярынец**. Гэты апошні, апрача літаратурнага таленту, будучы сустаршынёй нерэгістраванай партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя, вядомы вельмі рэзкай грамадска-палітычнай пазіцыяй. БХД — рух, у якім праваслаўныя, каталікі, пратэстанты, уніяты хочуць на палітычнай глебе рэалізаваць шматрэлігійнасць беларускай прасторы. Таксама вельмі важнае, што прадстаўнікі ўсіх згаданых канфесій выступілі ў якасці панэлістаў. Таму некаторыя ўзаемныя заўвагі кшталту рэлігійна-палітычных палемік паказвалі як жывучасць праблем, так і ўмеласць слухання і патрэбу міжканфесійнага выбудоўвання мастоў на будучыню. Беларуская шматканфесійнасць адлюстраваная і ў беларускай літаратуры. Яна зараз мае шмат элементаў хрысціянскай даўніны, да якой ахвотна звяртаюцца беларускія пісьменнікі. Не хапіла часу, каб прааналізаваць не менш цікавы фрагмент беларускай літаратуры — яе паганска-народныя вытокі і інспірацыі. Павал Севярынец і іншыя выступоўцы падкрэслівалі таксама ролю жыдоўскай культуры і спадчыны, але не толькі ў жыцці жыхароў беларускіх зямель. Вельмі важным з'яўляецца менавіта ўдзел жыдоў — ураджэнцаў Беларусі — у стварэнні і развіцці ізраільскай дзяржавы. Аднак пра гэта напішам шырэй у будучыні. Вядома, тут па-за ўвагай не засталіся беларускія татары, якія ў русіфікацыйныя савецкія часы былі апірышчам для існавання беларускай мовы.

Усе прызналі, што галоўнай праблемай беларусаў з'яўляецца недахоп адзінага варыянту беларускай Біблії. Як менавіта прадставіла **Ірына Дубянецкая** — карыфей беларускай біблеістыкі, Біблія на працягу тысячагоддзяў з'яўляецца тым стрыжнем, на якім выбудоўваліся і замацоўваліся нацыянальныя мовы. Тады, калі ў наступным годзе будзем святкаваць юбілей пяцісотгоддзя друку Скарынаўскай Біблії, чацвёртай друкаванай тады на свеце, то на пачатку дваццатага стагоддзя недахоп беларускай Біблії на яе жывой мове нясе па сённяшні дзень праблемы кшталту вынесенага ў загаловак Трыялогу пытання. І паслядоўнасці таго запознанага біблейнага цягніка патрэба як найхутчэй выправіць дзеля ўвогуле нацыянальнага выжывання. На шчасце прадстаўнікі дзвюх найбольшых беларускіх канфесій — **айцец Георгі Рой** з праваслаўнага сабора ў Гродне і **ксёндз Сяргей Сурыновіч** з Друі — сваімі выказваннямі далі мне цень надзеі на лепшыя часы для слова Божага на роднай мове. Кожная Царква вядзе сваю ўласную перакладчыцкую і выдавецкую справу, эфектам якой літургічная літаратура дае шанц на поўныя беларускія багаслужбы і набажэнствы. Але для поўнага шчасця як заўсёды не хапае пэўнага... але. Гэта епіскапы і мітрапаліты, ад якіх згоды перш за ўсё залежыць пашырэнне беларускасці ў размовах з Богам. Як гэта выглядае на практыцы бачна на падляшска-беластоцкім прыкладзе, які напэўна не з'яўляецца абнадзейваючым для ўсіх.

**Яўген ВАПА**





# Бязвізавы канал

25 жніўня, калі ўся беларуская грамадскасць святкавала 25-я ўгодкі з часу надання Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце краіны канстытуцыйнага статусу, кіраўнік дзяржавы выдаў досыць нечаканы ўказ. Некаторыя не без падстаў нават назвалі яго сенсацыйным. Гаворка ідзе пра ўказ, які ўводзіць бязвізавы ўезд замежных грамадзян у рэкрэацыйную зону Аўгустоўскага канала на тэрыторыі Беларусі. Пад вольны ўезд паводле яго павінны падпасці некалькі сельсаветаў Гарадзенскага раёна (Адэльскі, Гожскі, Капцёўскі, Падлабенскі, Сапоцкінскі) і сам абласны цэнтр — Гродна. Рашэнне бясспрэчна пазітыўнае, хоць падаць у эйфарыю ад яго няварта хоць бы таму, што дзеянне ўказа пачне ўваходзіць у жыццё толькі праз два месяцы, плюс (дакладней — мінус) — яно абмежаванае ў часе — будзе дзеіць толькі да канца 2017 года (праўда, заўважана, што з магчымасцю працягу). Паведамляецца, што замежны грамадзянін зможа ўехаць у вызначаную зону без візы ў пашпарце, але з адпаведным дакументам на права наведвання зоны адпачынку. Што гэта будзе — нейкі ваўчар, ці квіток, ці турыстычная пуцёўка — пакуль невядома. І самае галоўнае: ці не будзе гэта каштаваць занадта дорага — прыблізна столькі, колькі і віза? Але ж можна тут спадзявацца хоць бы на спрашчэнне набывання такога дакумента.

А цяпер пра матывы нечаканага, здавалася б, рашэння начальніка беларускай дзяржавы. Прычын тут можа быць некалькі і яны завязаныя ў комплексе праблем. Невядома, які фактар з'яўляецца важнейшым, таму паспрабую пералічыць іх у адвольным парадку. Зусім нядаўна, літаральна тыдзень таму, такі ж нязменны і вечны кіраўнік Казахстана Нурсултан (так і хочацца падзяліць гэтае імя на нур і султан) Назарбаеў абвясціў пра бязвізавы выезд на берагі Сырдар'і і Балхаша для ўсіх грамадзян Польшчы. Зразумела, што гэта больш сімвалічнае рашэнне, чым практычнае. Адстаць жа ад свайго азіяцкага сабрата Аляксандр Рыгоравіч ніяк ня мог, адказаўшы падобным шырокім крокам. Тым больш, што Назарбаеў апошнім часам усё больш перахоплівае ў яго тогу міратворца ў іншых рэгіянальных канфліктах. Так што гэта яшчэ і своеасаблівы завочны спабор палітычных альфа-самцоў. Абодва кіраўнікі не на жарты баяцца яшчэ больш жарсных абдымкаў старэйшага брата (і слушна, бо баяцца ёсць чаго!) і час ад часу робяць жэсты прыхільнасці ў бок Захаду, імкнучца балансаваць на хісткім мастку геапалітыкі.

Іншая бясспрэчная прычына новага ўказа — гэта адсталае эканамічнае развіццё гарадзенскага рэгіёна, у чым нядаўна мог пераканацца сам кіраўнік Рэспублікі Беларусь, наведваючы вобласць. У тым ліку і з-за закрытасці і штучных меж. Такі памежны горад як Гродна проста мусіць развівацца куды больш дынамічна і паслядоўна. Здаецца, гэта цяпер зразумелі і ў „вярхах". Беларускай эканоміцы надзвычай патрэбны заходнія інвестыцыі, прыток капіталаўкладанняў, а таксама развіццё адпаведнай часу інфраструктуры і прыток замежных турыстаў, паколькі дагэтуль знешні турызм беларусаў значна перавышае ўнутраны. Істотнае спрашчэнне перасячэння мяжы па дарозе да Гродна можа хоць нейкім чынам палепшыць гэтую сітуацыю. Патэнцыйна таксама можа актывізавацца і супраца ў Еўрарэгіёне „Нёман", з'явяцца новыя еўрапейскія праекты.

У кожным разе такую пастанову аб спрашчэнні мяжы з часткай Беларусі, хай сабе пакуль толькі з адным абласным прымежным цэнтрам, трэба толькі вітаць. Жыхары суседняй Беласточчыны і Друскенікаў (усяго больш адкрытымі стануць ажно 4 памежныя пераходы з Польшчы і Літвы) змогуць ездзіць у госці да сваякоў і сяброў па больш спрошчанай формуле, пабачаць нашу культурную спадчыну і цяперашні лад жыцця. Глядзіш, і з так званым малым памежным рухам нешта зрушыцца, актывізуецца.

Толькі трэба памятаць, што бязвізавы Аўгустоўскі канал — гэта зусім не малочная рэчка з кісельнымі берагамі...

❖ **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Пажарнікі з Махнатага

З дарогі, што вядзе ад Мора да Старога Корніна, убачыў я новы элемент нашага краявіду — зялёныя купалы накшталт вялікіх юртаў. З інфармацыйнага стэнда перад аб'ектам даведаўся я, што гэта цеплаэлектрастанцыя, для якой палівам з'яўляецца біягаз. З чаго канкрэтна гэты газ атрымліваецца даведацца мне не ўдалося, станцыя падлягае варшаўскай Польскай біягазавай групе. Мабыць трэба радавацца гэтай тэхналагічнай навінцы, якая, пакуль, уносіць навізну ў мясцовы ландшафт...

У Махнатым насупраць дарогі ў Дубічы-Асочныя вельмі прытушаны будынак былой школы. Вокны ў ім шчарбатыя, усярэдзіне звалка будаўнічай драўніны з нейкага зносу. Вароты на школьны панадворак раскрыты, на тым панадворку старыя аконныя створкі, прыржавелыя абагравальныя трубы, зарастаючая зеленню кучка жвіру...

Акурат з'яўляецца веласіпедыстка, якая кіруецца ў напрамку Барка. Пытаю яе пра толькі што пабачанае. Дзелавога гаспадара будынак не мае, а вароты на школьны панадворак адкрыты, каб моладзь магла карыстацца тамашняй спартыўнай пляцоўкай. Пытаю пра вясковую святліцу...

— А вось, гэты будынак спераду, — адказвае, паказваючы прасторную мураванку.

З-за самаходаў перад будынкам чую свойскую гаворку, заглядаю. З прыадкрытага гаража бліснула магутная тушыльная машына, побач яе траіх мужчын — двух маладых і адзін сярэдняга ўзросту. Заводзім гутарку пра мясцовыя пажарніцкія рэсурсы. Адзін з маладых мужчын адыходзіць, паведамляючы, што ён не пажарнік. Астаецца двух; старэйшы з іх, Аляксей Герасімюк — камендант мясцовай пажарнай каманды і малады Якуб Крышковец.

Каманда ў Махнатым налічвае 54 пажарнікаў, галоўным чынам з Махнатага, але ёсць і са Старога Беразова. Гэты лік актыўных мужчын вельмі радуе, бо ж у нашым шырокім наваколлі шмат такіх вёсак, дзе мужчыны рарытэтам. Гэтая актыўнасць паралельная і з актыўнасцю ў галіне мастацкай самадзейнасці... Машына, якая здалася мне зусім новенькай, на службе ў Махнатым ужо два гады і часта выязджала на баявыя акцыі. Для прыкладу, толькі ў бягучым годзе тамашнія пажарнікі выязджалі ўжо сорак восем разоў, значыць прыблізна два разы ў тыдзень.

— А бывае, што ездзім і кожны другі дзень, — дадае спадар Герасімюк. — З павятовай камендатуры ў Гайнаўцы атрымліваем сігнал трывогі, які адразу заводзіць нашу сірэну. Баявыя машыны могуць вадзіць некалькі шафёраў і хто першы з'явіцца ў дэпо, той і заводзіць яе. Выязджаем у прынцыпе па дзвюх мінутах, а здараецца і раней.

— Нашы пажарнікі зафіксаваны ў сістэме REMIZA, якая аўтаматычна падае сігнал трывогі для нашай каманды на нашы мабільнікі, — дадае спадар Крышковец. — Сігнал ад сірэны не ўсюды дастаткова чутны, а мабільнікі заўсёды пад рукой і выдатна спрыяюць нашай аператыўнасці.

Пажарнікі з Махнатага выязджаюць не толькі да пажараў. Іх радыус дзеяння ахоплівае ў прынцыпе цэлы Гайнаўскі павет. Едуць яны расчышчаць дарогі з паваленых буралomaў, едуць да дарожных выпадкаў, у ліку іх задач таксама стаўлянне на дарогах санітарных бар'ераў, напрыклад, ад афрыканскага мору свіней.



У каманды дзве машыны: вялікая MAN, якую атрымалі ў 2014 годзе; яна падалася мне новай, бо памылі яе акурат днём раней. Ёсць яшчэ і меншая — лёгкая машына тэхнічнага выратавальніцтва FORD, якою каманда карыстаецца з 2009 года; яна болей зваротная і выгаднейшая для абслугоўвання дарожных выпадкаў ды ліквідацыі дарожных завал.

Каманда з Махнатага з'яўляецца адной з найстарэйшых у Гайнаўскім павеце; у мінулым годзе адзначала яна 80-годдзе. Старэйшай здаецца быць толькі каманда з Кляшчэль, якой бадай на дзесяць гадоў больш.

Парадавалі мяне махнацкія пажарнікі сваёй дынамікай. І ад гэтай радасці забыў я іх больш дэталёва распытаць і пра старых школьны будынак у іхняй вёсцы, і пра новую біягазавую ўстаноўку ў суседнім Старым Корніне...

❖ **Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Сваімі вачыма

# Час аддзячыць Скарыну

У гэтым фельетоне ў некалькіх сказах вярнуся яшчэ да крынкаўскага Трыялога, бо не пра ўсе справы ўдалося напісаць на першай старонцы. Апрача літаратурна-мастацкай часткі ад некалькіх гадоў каштоўнасцю самой у сабе з'яўляецца і яго музычная сцэна. У гэтым годзе адразу пасля дыскусій я з'ехаў у Беласток, каб усё пабачанае і пачутае асэнсаваць і да панядзелка зранку напісаць два тэксты і адправіць іх у карэктуру. Суботні вечар і Успенская нядзеля былі тады ў мяне звычайнымі працоўнымі днямі. Таму не ўдалося мне паслухаць ані гурта «RE1IKT», ані сакратавых «Мініяцюр» у выкананні Юркі Асенніка пад музыку Міхала Яцашака, ані «PORT MONE». Але калі я бачыў, як Юрка адказна рыхтаваўся да выступу, то быў упэўнены ў яго творчым поспеху. Таму без аніякай крывадушнасці магу напісаць, што Сакратавы мініяцюры гучалі прываблівa і далі задавальненне слухачам, тым больш што пра ўражанні запытаў я тры асобы з рознымі музычнымі густамі і ў розным узросце і іх адказы былі станоўчымі. Думаю, што атмасфера невялікай, канцэртнай залы, як у выпадку Каўказскай сінагогі, дае добрую моц паэтычным канцэртам. Таму і гурт «RE1IKT» адвёў душу ўсім прысутным.

Калі ёсць магчымасць паглядзець як рыхтуецца такое мерапрыемства як Трыялог знутры, то бачна колькі заангажаваных асоб стараецца сабраць усе ніткі, каб не было правалаў. Мартына і Ася, Аня і Міхал Грэсь, Павал Грэсь, Сенька, маладыя валанцёры бяруць на сябе функцыянаванне мерапрыемства, якое з'яўляецца даволі складаным, лагістычным выклікам, хаця некаторыя не дацэньваюць такой грамадскай талакі. Але такая рэчаіснасць і кропка. Ва ўсім тым аграмадны цяжар кіравання і адказнасці нясе старшыня фонду «Віла Сакратэс» Лявон Тарасэвіч. На заканчэнне дыскусій пабачыў я задавальненне на ягоным твары і пачуў словы: «Бачыш, насуперак перашкодам атрымалася». Пра перашкоды можна не толькі здагадвацца, але і пісаць. Фінансавыя, адміністрацыйна-чыноўніцкія перашкоды знеахвочваюць да грамадскай актыўнасці, за якую прыходзіцца расплачвацца ўласным здароўем і грашыма. Самае важнае, што вельмі цікавая дыскусія традыцыйна ўжо запісвалася і поўнасцю пабачыць свет у чарговым нумары «Annus Albaruthenicus».

У якой ступені пытанне «Ці Бог не разумее па-беларуску?» паўплывае на далейшыя рэфлексіі і дзеянні грамадскіх і царкоўных элітаў, пакажа наступны год. Безумоўна, будзе гэта год Францішка Скарыны. Беларускі першадрукар можа адыграць велізарную аб'яднальную ролю ў беларускай рэчаіснасці. Нават хіба міністр культуры Беларусі, здаецца, зараз не супраць, каб мінскі аэрапорт уганараваць імем беларускага першадрукара. Пяцьсот год беларускаму друкаванаму слову ў выглядзе Біблії — гэта для дзяржавы і нацыі векапомная падзея. Ці не замаўчаць яе ўлады? Міхасю Андрасюку замарылася, напрыклад, выданне скарынаўскай Біблії мінімум стотысячным тыражом, каб зрабіць яе агульнадаступнай. На такія выклікі і расходы можа дазволіць толькі палітычнае рашэнне ўлады, якая зараз жыве ў страху перад крамлёўскім братам. Бо ж бачым, як праігнаравана была, напрыклад, пяцісотая гадавіна бітвы пад Оршай 1514 года. Нагадваецца мне яшчэ графіка Лёніка Тарасэвіча, так актуальна звязаная з пытаннем Трыялогу. Адна з вокладак часопіса беларускіх студэнтаў у Польшчы «Сустрэчы» № 6 з 1987 года, прадстаўляла гравюру-аўтапартрэт Францішка Скарыны з подпісам «Я таксама не вучыўся ў беларускай школе». Лепей не прыдумаць наконт любой праявы беларускага рэнегацтва. Грамадскіх ініцыятыў у гэтай справе пэўна з'явіцца многа. Але ці асоба Францішка Скарыны ў святле міжканфесійнай, беларускай сітуацыі можа быць тым аб'яднальным і народасправальным фактарам беларускай згоды? Ці наадварот? Ці каталіцка-праваслаўнамасонскія светы ў змозе даць прыклад прымірэння і дальнабачнасці? Бо калі перастанем быць уважлівымі спадкаемцамі старабеларускай, скарынаўскай Бібліі, то і Бога можам гэтым разгневаць. А Ягонага гневу лепш не ўяўляць — хопіць успомніць Святое пісанне.

❖ **Яўген ВАПА**

# Грабарка — праваслаўная гара Фавор

**Каля чатырох тысяч вернікаў, паводле афіцыйных дадзеных, прыехала на свята Праабражэння Гасподняга на Святую Гару Грабарку. Галоўную літургію служылі патрыярх Антыёхіі ды ўсяго Усходу Іаан Х, а таксама першаіерарх Праваслаўнай царквы ў Польшчы мітрапаліт Сава. У час літургіі маліліся за вернікаў абодвух Цэркваў, за мір, талерантнасць і рэлігійную свабоду. Свята Праабражэння Гасподняга штогод збірае на Грабарцы тысячы праваслаўных хрысціян з усёй Польшчы і замежных краін. Якраз з Грабаркі паплылі ў свет кранальныя словы патрыярха Антыёхіі, які заклікаў да рэальнай падтрымкі так важнага для ўсіх хрысціян месца.**



У дыпціху ў традыцыйным ганаровым парадку праваслаўных патрыяршых кафедраў Антыёхія згадваецца на трэцім месцы пасля Канстанцінопаля і Александрыі. Сёння з-за хаосу, выкліканага грамадзянскай вайной у Сірыі, цяжка вызначыць дакладны лік вернікаў гэтай Царквы, якая ў літургіі выкарыстоўвае арабскую мову. На гэтай жа мове 19 жніўня патрыярх Іаан Х маліўся з сотнямі паломнікаў на Святой Гары Грабарцы — вельмі важным месцы для праваслаўных хрысціян. Але з году ў год прыязджае сюды таксама шмат католікаў. На галоўных урачыстасцях заўсёды прысутныя каталіцкія святары. Таму не здзіўляе патрыяршая тэза, выказана ім у прывітальным слове. Іаан Х адзначыў, што Праваслаўная царква на Падляшшы адыгрывае важную ролю ў дыялогу з Каталіцкім касцёлам: «Пахвальнай задачай вашай Царквы з'яўляецца будаванне мастоў паміж праваслаўнымі і католікамі. Здаля ад любых спроб празелітызму і славалюбства, але ў братэрстве і любові. Пра гэтыя каштоўнасці неаднаразова гаварыў наш Гасподзь».

Стоячы на чале Царквы з 2012 года, Іаан Х з самага пачатку змагаецца з наступствамі аднаго з самых трагічных канфліктаў пачатку XXI стагоддзя. Вайна асабліва параніла паўночную частку патрыярхату вакол горада Алепа, якое амаль ад года бамбардуе расійская авіяцыя. Гэта менавіта з гэтых ваколіц у 2013 годзе выкралі роднага брата Іаана Х — епіскапа Паўла, які да сёння знаходзіцца ў зняволенні. Таму на Грабарцы ў час галоўнай літургіі словы патрыярха былі асабліва кранальнымі. Іаан Х заклікаў да рэальнай падтрымкі братоўхрысціян у Сірыі. «Выцерпелі мы ўжо шмат. І надалей пакутуем ад выгнання, эканамічнай ізаляцыі, парушэнняў суверэнітэту дзяржаў, тэрарызму, гвалту, забойстваў, знішчэння рэлігійных і культурных помнікаў (...). Тым часам свет адыгрывае ролю аўдыторыі, якая агучвае ілжывую інфармацыю».

Мітрапаліт Сава, па запрашэнні якога патрыярх Антыёхіі прыехаў у Польшчу, адзначыў на Грабарцы, што свет стаў перад цяжкім іспытам. «Мы з'яўляемся сведкамі вялікага перажывання сірыйскага народа і пераследу хрысціян у Сірыі. Рэлігійны фанатызм паглынае ўсё больш і больш ахвяр. Еўропа і свет трацяць сваю аснову — хрысціянскія каштоўнасці. Усё гэта патрабуе духоўнага аднаўлення, надзеі на будучыню. Свет патрабуе праваслаўя, якое на працягу стагоддзяў захоўвае навуку Хрыста», — сказаў мітрапаліт Сава.

У часе ўрачыстасці на Грабарцы патрыярх Антыёхіі падараваў мітрапаліту Саву ікону св. св. Пятра і Паўла — заснавальнікаў і патронаў святога апостальскага аб'яднання Антыёхіі. Менавіта тут (як ведаем з Апостальскіх дзеяў), паслядоўнікі Хрыста ўпершыню сталі называць сябе хрысціянамі. Пасля арабскай заваёвы ў 637 годзе Антыёхія ніколі не вярнулася да старажытнай пышнасці.

Іаан Х наведаў некаторыя праваслаўныя прыходы на Падляшшы. Сустрэўся з вернікамі ў Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім, Звярках і Супраслі. У нядзелю 21 жніўня здзейсніў літургію ў царкве Святога Духа ў Беластоку. Ва ўсіх месцах патрыярх Антыёхіі набліжаў жудасную сітуацыю хрысціян у Сірыі і выразна адзначаў, што калі Еўропа не пачне гуманітарнай дзейнасці і дапамогі ў пошуках годнага жыцця сірыйскім бежанцам, існаванне так яго Царквы, які і цэлага народа апынецца ў бліжэйшым часе пад пытальнікам.





Фота Аляксандра Вярбіцкага

■ Патрыярх Антыёхіі ды ўсяго Усходу Іаан Х у Беластоку



Магчыма, што агульнасусветныя праблемы засланілі нашы лакальныя. Крамы і будкі, якія стаяць вакол Святой Гары, гэта ўжо пастаянны элемент свята. Аднак з іх ліку вылучаўся той, на якім прадаваліся майкі з польскімі нацыяналістычнымі сімваламі. Гандлярка на пытанне, ці гэта час і месца, каб прадаваць такія майкі, адказала з задавальненнем, што ёй да поўдня ўдалося прадаць ужо дваццаць штук. З яе вуснаў таксама паплыло своеасаблівае навучанне, у якім падкрэсліла, што нельга праз прызму адзінкавых падзей глядзець на ўсіх апошніх польскіх герояў (выклятых жаўнераў). У сваю чаргу арганізатары, якія афармляюць дазволы на гандаль у час Спаса на Грабарцы, відавочна палічылі, што знойдуцца пакупнікі на такі тавар. А Грабарка гэта не толькі найважнейшае месца Праваслаўнай царквы ў Польшчы, але таксама месца, якое ў пэўным сэнсе, вызначае ідэнтычнасць. Ці польскую?

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

## На Спаса на Грабарцы і ў Саках

У гэтым годзе я святкаваў Спаса ў двух месцах. 18 жніўня з'ездзіў я на Грабарку. Як штогод пабываў на вячэрні. Грабарка здалася мне шумным месцам. Аўтамашыны на стаянках з рэгістрацыйнымі табліцамі з усёй Польшчы. Многа людзей, многа знаёмых, цяжка засяродзіцца на малітве. Найбольш мне не падабалася, што ад некалькіх гадоў гэтае святое месца ператварылася ў велізарны кірмаш. Купіць тут можна ўсё і не толькі для душы: вопратку, кнігі, кампакт-дыскі, розную яду, дзіцячыя цацкі. Асабліва ўразіў мяне гул польскай папсы. Думаю, што Грабарка гэта не месца, каб таргаваць музыкай і таварамі, якія штодзень можна купіць у крамах у горадзе. Я разумею, што іконы, праваслаўная літаратура — патрэбныя святому месцу і чалавечай душы, але астатняе — як казаў Хрыстос — пакіньма кесару. Гучныя і кепскай якасці цацкі асабліва вабяць малых дзетак. Вечарам 18 жніўня каля 21-й гадзіны цяжка выехаць на аўтамашыне з Грабаркі. Першымі выязджаюць святары. Яны не толькі выязджаюць першымі, але да таго не плацяць за стаянку. А мы, шэрыя вернікі, мусім цярпліва чакаць у велічэзнай чарзе аўтамашын. На шчасце, выехаўшы са Святой Гары, паліцыя хутка і спраўна кіруе рухам, прапускае нас дахаты.

У сам дзень Спаса мы рашылі падацца ў Сакі. Туды мы ездзілі штогод у 1990-я гады. З маёй вёскі да Сакоў — 6-7 кіламетраў. Мо таму мы пастанавілі паехаць на веласіпедах. Надвор'е было цудоўнае — цёплая сонечная і летняя пагода. У Саках сапраўднае супастаўленне Грабаркі — хаця народу многа, то цішыня і спакой, а ларкі далёка ад царквы. Мо таму, што ўжо 15 гадоў у Саках дзейнічае праваслаўны мужчынскі манастыр. Манахі самі падыходзяць да людзей і вітаюцца з імі. Добразычлівая атмасфера прыцягвае моладзь з Беластока. Многа беластоцкіх знаёмых сустрэў я ў царкве ў Саках. Тут можна засяродзіць увагу на малітве. Большасць вернікаў у Саках — жыхары Гайнаўшчыны і Бельшчыны, а перш за ўсё з навакольных вёсак — Сакоў, Залешанаў, Тапароў, Тафілаўцаў, Дубіч-Царкоўных. Таксама бацюшкі з суседніх парафій. Сёлета госцем на Спаса быў айцец Кірыла — манах з Афона. Гэта ён распісаў іконы на іканастасе ў царкве ў Саках. У сваёй пропаведзі ён сказаў, каб кожны з нас знайшоў сваё духоўнае праабражэнне і каб яго перажываў штодзень. Айцец Кірыла нарадзіўся ў Львіі, дзе зараз ідзе вайна. Ён часта ездзіць у манастыр у Саках, таму што шчыра сябруе з манахамі з Падляшша. Яго пропаведзь з грэчаскай мовы перакладала манашка з Залешан. Залешаны — суседняя з Сакамі вёска. Тут 70 гадоў таму жаўнеры польскага падполля замардавалі жыхароў Залешан. Тут зямля акропленая крывёю нявінных беларусаў. На месцы трагедыі зараз стаіць праваслаўны жаночы манастыр святой Кацярыны. У Саках штогод адзначаюць Спаса і мо таму нездарма Сакі называюць малой Грабаркай. Хаця і Грабарка цудадзейнае месца, то ў Саках бліжэй мне да Бога.

**Юрка БУЙНЮК**

# На Панцеляймона ў Семяноўцы



На фэст у дзень святога вялікамучаніка Панцеляймона, лекара і аздараўляльніка з Нікамедыі (+305 г.), апекуна могільнікавай капліцы Свята-Юр'еўскага прыхода ў Семяноўцы, збіраюцца тлумы вернікаў незалежна ад таго, ці 9 жніўня ў календары пазначаны як будні дзень. Сёлета быў гэта аўторак, спачатку цёплы ды сонечна-хмарны. Пасля ад Семяноўскага вадасховішча наляцелі чорныя хмары, шчодра секанула ліўнем. Але доўгачаканае свята, арганізаванае Гмінным асяродкам культуры ў Нараўцы і Нараўчанскай гмінай, не страціла сваіх гледачоў — жыхароў Семяноўкі і ваколіц, таксама зарэчанскіх, іх сваякоў ды турыстаў. Імпрэза пасля службы і пасвячэння магілак праводзілася на пляцы каля былой пачатковай «тысячагодкі», цяпер Цэнтра экалагічнай адукацыі, побач прыхадской царквы св. Георгія Пераможцы. У цэнтры ў апошнія тыдні жылі і вучыліся спеваў маладыя і старэйшыя «Суседкі», якія сёння выступяць з фальклорнымі песнямі. А незалежны прыход са старадаўняй царквой тут ужо шасцідзясяты год.

Незалежны Семяноўскі прыход заснаваны быў 31 жніўня 1957 г. Першым настаяцелем — які да сёння ажыццяўляе сваё святарскае служэнне — з'яўляецца

**Мікалай Шэбелян**.

Раней царква належала прыходу ў Ляўкове, а пасля ў Нараўцы. У 1970-1972 гады ўнутры храма была выканана паліхромія і ўзведзена цагляная званіца (старая драўляная была знесена), а затым царкоўны падвор быў агароджаны каменным мурам. Іканастас быў узбагачаны новымі райскімі варотамі. Царква святога Георгія Пераможцы (прыхадскія святы: 6 мая — Юр'я і 14 кастрычніка — Пакрова Маці Божай) мае старую гісторыю. Пра яе расказаў бацюшка Мікалай. Мураваную царкву з драўлянай званіцай і агароджай адрамантавалі былі да 1854 (хутчэй за ўсё, у 1848 годзе, як відаць на драўляным крыжы перад царквой). У 1894 г. быў зроблены рамонт цэлага храма. На мясцовых могілках стаіць другая мураваная царква — святога Панцеляймона, узведзеная ў 1984 годзе. Прыхадскія могілкі былі заснаваны ў 1956 годзе, а ў 1981 годзе акружаны бетонным мурам. І штогод 9 жніўня арганізуецца ў Семяноўцы фальклорны фэст, працяг святкавання прыхадскога фэсту. Мураваная царква была пабудавана ў васямнаццатым стагоддзі (XVII?), а могілкі — у сярэдзіне дваццатага стагоддзя. Вядома, што ў 1869-1956 гады памерлых з Семяноўкі і ваколіц хавалі на могілках у Нараўцы. Невядома, дзе хавалі людзей ад будаўніцтва царквы да часу, калі пачалі хаваць іх у Нараўцы. У той час, калі Семяноўка належала прыходу ў Ляўкове, там не хавалі семяноўцаў. Вельмі верагодна, што месцам могілак з'яўляўся невялікі пагорак, па другім баку ад чыгуначнага шляху ад станцыі, які быў раскапаны пры будаўніцтве перагрузачнай станцыі ў 1952 г. Работнікі выкопвалі тады труны са шкілетамі. Гэты тэзіс таксама пацвярджае геадэзічная карта з 1932 г., на якой гэтая тэрыторыя не пазначана як ралля, луг ці сядзібныя ўчасткі, а падпісана «Могілкі». Пазначана гэтая тэрыторыя як участак № 155. А на суседнім участку № 156 знаходзіцца сучасны могільнік.

За царквою Георгія Пераможцы (раней аколенай векавымі ліпамі) відаць славуты мост на Семяноўскім возеры. Усё тут змянілася

**за стагоддзі**.

А найбольш — за апошнія гады. У 1780 годзе вёска была ў маёнтку Нараўка і належала віленскаму біскупу Ігнату Масальскаму. Ад 1787 г. Семяноўка была ў руках Яна Вянгерскага (кракаўскага шамбеляна), якому некаторыя прыпісваюць узнясенне мураванай царквы св. Георгія, хоць іншыя кажуць, што царкву пабудавалі яшчэ ў XVII стагоддзі, у час Масальскіх або Станіслава Карпа. Мураваную царкву з драўлянай у той час званіцай і агароджай рамантавалі перад 1854 г., у 1894 г. рамантавалі ўсю царкву. А новую хроніку прыхода і царквы вядзе да нашага часу айцец Мікалай Шэбелян. Прыбыў ён у Семяноўку ў снежаньскі дзень 1956 года. Як памятаюць вучні тады сёмага класа школы, пабудаванай у 1955 годзе, убачыўшы маладога чалавека ў рызе, выбеглі яны з заняткаў прывітаць яго ды пасля адкленчалі ў кару за тое, што пакінулі ўрокі. Мікалай Шэбелян нарадзіўся. 1 сакавіка 1935 годзе ў Тарэспалі. Кончыў Духоўную семінарыю ў Варшаве. У верасні 1955 г. на шлюбе калегі Аляксандра Макаля пазнаёміўся з дружкай — Яўгеніяй Байко з Юрашоў, праз пяць месяцаў яны павянчаліся, а 1 красавіка 1956 года мітрапаліт Макарый высвянціў яго на дыякана. Пасля семінарыі, у час канікул Мікалай часта ездзіў на службы з а. Макалём, у Новым Двары служыў разам з а. Мікалаем Шчурам, дзядулем ігуменні Ерміёніі з Грабаркі. 4 лістапада 1956 г. быў высвенчаны на бацюшку. Марыў пра прыход у Забалоцці каля Яблачына, ды мітрапаліт запрапанаваў службу ў невядомай яму Семяноўцы, адкуль прыехалі да яго сяляне з просьбай заснаваць у іх прыход. 10 снежня 1956 г. Мікалай Шэбелян атрымаў дэкрэт на настаяцеля ў Семяноўцы... Калі 31 жніўня 1957 г. быў афіцыйна ўстаноўлены Семяноўскі прыход, было ў ім каля 1400 вернікаў, а 170 дзяцей вучылася ў мясцовай школе і 40 — у Тарнопалі. А цяпер нешматлікія дзеці ездзяць у гмінную школу ў Нараўцы.

— Усё памятаю, сваіх прыхаджан, калі падыходжу да магілкі,

**кожнага ўспамінаю**

ў твар, — уздыхае бацюшка Мікалай. — І пабудову Панцеляймонаўскай царквы на могілках (1984-1985), дабудову мураванай званіцы на Георгіеўскай царкве (1968), рамонт храма, пастаноўку мураванай агароджы вакол храма, устанаўленне ў падлозе царквы алейнага ацяплення, якое зліквідавала сырасць (зімой у храме цяпер 12 градусаў цяпла)... У 1972 г. інтэр'ер царквы быў пакрыты паліхроміяй (выканаўцам быў Язэп Латоўскі з Беластока), іканастас рабіў Міхал Вайткевіч з Бельска, іконы да іканастаса пісаў Віктар Гуткевіч з Беластока... У той самы год мітрапаліт Васілій пасвянціў новы алтар... Пасля гадоў паліхромія выблякла, у 1993 г. мастакі з Ковеля Аляксандр і Яўген аднавілі яе... Ад 1957 года навучаў я Закону Божага. Вучыў я рэлігіі заўсёды па-свойму... І хораша, што гэтыя фэсты — свойскія, народныя, на пахвалу роднага слова.

— Падабаецца мне гэтая імпрэза, бо яна свая, родная, — кажа Юрка Панкоўскі. — Я, як жыхар Семяноўкі, чакаю яе. З году ў год. Адно адмоўнае, што я штогод старэйшы, і... танцаваць не вельмі магу. Найлепшыя тут гурты — сёння беластоцкая «Калінка», нашы «Нараўчанкі», «Зорка» (праз два тыдні выдадуць пятую кружэлку), маладзенькія «Суседкі». А для забавы — «The Postman", а пасля «Avanti". І можна гуляць да рання. Важна, што гэты беларускі

**народны фэст**

арганізуе сама наша гміна.

— Будзе ўжо гэта за дзясятая імпрэза, — кажа войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч, які асабіста адкрыў фэст. — Самі яе арганізуем. Гасцей сапраўды многа, таксама і турыстаў.

— Палічыць цяжка, колькі іх было, фэстаў «на Панцеляймона»! Шукаем новыя імпрэзы, — кажа Галена-Марыёля Рээнт, дырэктарка нараўчанскага ГАК. — На Новым Двары выступіць наш сусед родам з Пасек — спявак аперэты Міхал Скепка. Праз два тыдні — дажынкі, у Нараўцы. Не маем сродкаў, але сёння атрымалі мы ўжо «профіль зауфаны» ў Міністэрстве ўнутраных спраў і адміністрацыі. І можам пісаць новыя праекты. Пэўна, з малым вынікам, але падумаць можна. На адукацыю дзяцей і моладзі ў рэгіянальных традыцыях. Вось зараз — на тыя дажынкі, на Спленне... А тут турыстаў столькі, асабліва на веласіпедах. Ім асабліва цікава ў нас. Тэсціруюць шлях «Грын-Вэлё». З усёй Польшчы яны, захапляюцца, здзіўляюцца, што ў нас такія традыцыі, што так захавана прырода. І самае галоўнае — такое мерапрыемства з'яўляецца нагодай для таго, каб спаткацца са сваякамі, знаёмымі, калегамі з нашай школы, з настаўнікамі, з якімі, бывала, не бачыліся мы шмат гадоў. У большасці мы ў гэтай царкве хрысціліся, у бацюшкі Мікалая. Так што шляхі ў дзень святога Панцеляймона вядуць у Семяноўку, якой за 380 гадоў, з кожным годам іншую, але родную, сваю.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**



# ВОСТРАЎСКАЯ ГЕНЕАЛОГІЯ

— Чакаю цябе пад брамай, — гучыць па мабільніку знаёмы голас. Заядаецца салодкай шышкай толькі што набытай на адпустовым ларку. З яшчэ поўным ротам гаворыць пра свае новыя ідэі. Як невядомая тут асоба ўзбуджае зацікаўленасць прахожых. Свята Уладзіміра — нябеснага апекуна царквы на востраўскім могільніку, заўсёды прыцягвае незвычайную, па мясцовых мерках, колькасць удзельнікаў. Нельга сказаць вернікаў, таму што ў іх ліку знаходзіцца нямала пярэхрыстаў. Большасць з іх гэта выхадцы з навакольных вёсак. Самая лепшая нагода, каб асабіста вылавіць людзей і прыцягнуць іх да сваёй справы. Марк Карнілюк рыхтуе сваю чарговую генеалагічную акцыю. У гэты раз у прыхадскім доме ў Паўночным Востраве па бласлаўленні гаспадароў — бацюшкі Аляксандра і матушкі Людмілы Клімукоў.



Карына Барысенка, бацюшка Аляксандр Клімук і Марк Карнілюк

— Ёсць архіўныя матэрыялы, здымкі, будзе і госць з-за мяжы, — заяўляе Марк.

На багаслужбе ў дзень згаданага спаткання прыкмячаю жанчыну. Коратка пастрыжаная, у майцы і нагавіцах маскіруючага колеру. Рысы яе твару не здраджваюць паходжання ні на ўсход, ні на захад ад Крынак. Стаіць у прытворы крыху напалоханая, разгубленая, у руках трымае незапаленыя свечкі. З грэшнага, пустуючага прытвора ў сярэдзіну размолёнай царквы ўцягвае яе надзейная рука Марка Карнілюка.

Саракагадовая Бася думкамі ўжо на спатканні. Непакоіцца, што ніхто апрача ёй там не з'явіцца. Апошнім вясковым бабулям папросту не хопіць сіл, каб пасля багаслужбы яшчэ некуды ісці. Ганарыцца старым сямейным здымкам, які сёння запрэзентуе.

Нядзельная літургія завяршаецца. Да пачатку спаткання застаецца яшчэ дзве гадзіны. Матушка Людміла традыцыйна запрашае на абед:

— Заўсёды людзей трэба пачаставаць, прынамсі хлебам з джэмам і гарбатай. Калі ёсць у хаце мяса, накармі мясам, — павучае.

Сярод спажываючых нарыхтаваныя матушкай мясныя стравы прысутныя, між іншым, дачка Наталька з мужам і дзяцьмі, Марк Карнілюк з сям'ёй і незнаёмая жанчына. Завуць яе Карына, па-царкоўнаму — Кіра Барысенка. Прыехала з далёкага каўказскага Стаўрапаля. Тут, у недалёкай Нетупе і Юзафове, жылі яе продкі. Марка Карнілюка знайшла на беларускім сайце пошукаў сваякоў «Радзіма». Адгукнулася на яго просьбу і перапісала дванаццаць метрычных кніг прыхода ў Востраве. Справа вельмі складаная, тым больш што працуе ў губернскім міністэрстве фінансаў і вольнага часу ў яе амаль няма. Колькі ж сіл і сэрца трэба было ўкласці ў архіўныя пошукі, расшыфроўку старых рукапісаў, перапісванне, упарадкаванне, афармленне. Усё дбайна, ахайна, прафесійна. Такі падарунак гэта сапраўдная рэдкасць. Ці будзе ён ацэнены належным чынам людзьмі, якія ніколі такімі справамі не займаліся? Карына — жанчына інтэлігентная, сціплая і тактоўная. Няпрошаная, голасу не бярэ.

Галоўную мелодыю спаткання, быццам на далёкім, патрыяльхальным Каўказе, спяваюць у дуэце Марк Карнілюк і хлопец з Паўднёвага Вострава Юрка Хмялеўскі. Усе месцы ў вялікім гасцінным пакоі заняты. Арганізатар і гаспадары сустрэчы, мабыць, не спадзяваліся такой колькасці зацікаўленых асоб. Мясцовыя бабулькі ўважліва чытаюць прывезеныя Карынай сшыткі, шукаюць знаёмых імён і прозвішчаў.

— Калі ідзе пра Востраў, то захаваліся ўсе метрычныя кнігі з 1830 па 1942 год, — сцвярджае Марк Карнілюк. Ён нават у змозе сказаць у якім сейфе (хранілішчы), на якой паліцы шукаць канкрэтны экземпляр. Паводле яго, па колькасці захаваных дакументаў тутэйшы прыход знаходзіцца ў першай дзясятцы на Беласточчыне. Намаўляе сабраных да пошукаў, у тым ліку ў архівах вялікай Расіі.

— Там захаваліся абсалютна ўсе дакументы, нават з фотаздымкамі, — гаворыць ён. — Яшчэ пры царскай імперыі нашы людзі ездзілі туды на працу, між іншым, у Сібір. Частка бежанцаў засталася там назаўсёды. Некалькі дзясяткаў гадоў пазней далучыліся пасляваенныя рэпатрыянты.

Марк запэўнівае, што можна дакапацца нашмат глыбей, нават да далёкага, яшчэ ўніяцкага 1650 года. Раіць звярнуць увагу і на каталіцкія архівы, асабліва на запіскі са споведзі.

— Не хацеўшы доўга чаргаваць у царкве, спавядаліся ў касцёле і наадварот, — тлумачыць. — Тады розніцы паміж уніятамі і каталікамі амаль ніякай не было. Дзяцей хрысцілі па-рознаму, бывала, што дзяўчат у царкве, а хлопцаў у касцёле.

Шмат чаго можна даведацца і з судовых кніг. У якасці прыкладу прывёў судовую кнігу з 1764 года з падбельскага Райска. Дванаццаць прыхаджан мужчынскага полу было засуджаных бацюшкам; прычына — запрасілі ў лазню жанчыну. Што цікава, дзякуючы няшчаснаму здарэнню захавалася поўнае імя і прозвішча абвінавачанай. Сапраўдная адметнасць, узяўшы пад увагу, што ў звычайных царкоўных спісках да 1900 года жанчыны практычна непрысутныя.

Юрка Хмелеўскі публічна заявіў, што ўжо пятнаццаць гадоў шукае сваіх каранёў. Штуршком было знаёмства з гродзенскім гісторыкам Віталём Карнілюком.

— Пачынай з метрык і гістарычных дакументаў, — раіў яму тады гісторык. — Самыя важныя перапісы насельніцтва знойдзеш у архівах і музеях.

Большасць Юркавых дакументаў — вынік пошукаў менавіта Віталя. У Беластоцкім архіве Юрка самастойна трапіў на след дзевятнаццацівечнага продка з лацінска ахрышчанага Клеменсам. Найстарэйшы спіс у яго калекцыі датуецца 1816 годам. У доўгім тады Востраве хаты стаялі толькі па адным баку вуліцы. Жыло ў іх 600 душ. Беручы пад увагу блізкасць горада Крынкі, лічыліся яны мяшчанамі.

На думку Марка Карнілюка ў Востраве было тады як мінімум дзве карчмы. Адна не справілася б з такой колькасцю насельніцтва.

— Карчма выконвала функцыю скарбовай установы, — паясняе Марк. — На кожнага селяніна шынкар-жыд надзяляў па дзесяць літраў алкаголю ў год. Усё гэта было абкладзена высокім падаткам. Кажуць, што беластоцкі палац Браніцкіх пабудавалі менавіта з такіх шынкарскіх падаткаў.

Рознагалоссе двух аматараў гісторыі выклікалі паслядоўнасці вялікага пажару ў вёсцы.

— У дакументах 1845 года Востраў запісаны яшчэ як адна, доўгая вёска, — гаворыць Марк. — У спісках з 1864 года Востраў, як маёмасць двара ў Свідзялаўцы, ужо падзелены на тры часткі. Значыць, вялікі пажар меў месца паміж 1845 і 1864 гадамі.

Для Хмялеўскага пажар палавіны дзевятнаццатага стагоддзя — чыстая легенда. Спасылаецца на дакумент, у якім згадваецца агульнарасейская рэформа, звязаная з павышэннем падаткаў. Незвычайная даўжыня вёскі не спрыяла яе развіццю. Авечкі, якія пасвіліся пад Азерскімі, гналі ажно з-пад Шудзялава. Менавіта таму Востраў падзялілі на тры часткі — Паўночны, Паўднёвы і Новы. Прытым жыхары перасяляліся таксама ў недалёкае Трысцяное і Равок.

— У мяне шмат дакументаў, але ўсё гэта неўпарадкаванае, — прызнаецца Хмялеўскі. Ён чакае ахвотнага, які на грамадскіх пачатках усё гэта яму паскладае і прафесійна апрацуе.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

## Не тлумач, толькі плаці

Артыкул 69 Канстытуцыі напамінае: «Асобам з абмежаваннямі публічныя ўлады аказваюць, згодна закону, дапамогу ў забеспячэнні быту, прыстасавання да працы, таксама ў грамадскай камунікацыі». Юрыдычным дакументам з'яўляецца «Карта правоў асоб з абмежаваннямі» ад 1 жніўня 1997 года. Закон законам, а жыццё нясе свае нечаканасці.

Напрыклад, 8 чэрвеня падаўся я ў Беласток да лекара-спецыяліста, кабінет якога змяшчаецца па вуліцы Кракаўскай, 5. Мой апякун і заадно шафёр аўтамабіля паставіў машыну на платную стаянку. Паколькі я карыстаўся бестэрміновай картай паркоўкі для асоб з абмежаваннямі, дык перадаў дакумент апекуну і сказаў змясціць яго ў салоне ў бачным месцы. Агляд у спецыяліста доўжыўся не больш чым паўтары гадзіны (з чаканнем у прыёмнай). І тут здарылася нечаканае. Працаўнік гарадской стражы ў час праверкі сцвердзіў брак аплаты і ўручыў шафёру «рапартпавестку» за неаплачаную стаянку плюс 50 зл. штрафу. У абгрунтаванні кантралёр сказаў, што прад'яўлены дакумент няважны ўжо год па прычыне адмены правілаў закону аб дарожным руху. На жаль, ані я, ані шафёр аб гэтым не ведалі.

Мае тлумачэнні, што ў мяне абмежаванні да самастойнага існавання, дырэктара зоны платнай паркоўкі не пераканалі. Для чынушы самай важнай справай была «няважная карта паркоўкі», а не стан 76-гадовага хворага пенсіянера. Паколькі я лічу сябе пакрыўджаным — закон на маім баку — я паслаў заяву прэзідэнту горада Беластока. І зноў асечка. Мая заява трапіла не да адрасата, а да намесніка прэзідэнта, які адпісаў, што дакумент аб інваліднасці не з'яўляецца пацвярджэннем правоў да льгот за паркоўку аўтамабіля. Так вось, даражэнькія, справа маецца. Чыноўнікам беластоцкага магістрата да лямпачкі тлумачэнні пакрыўджанага чалавека з абмежаваннямі. Ім толькі плаці, братуха, ды нічога не гавары. Але я не складваю рук. Паслаў чарговую заяву непасрэдна прэзідэнту Беластока з далучанай новай картай паркоўкі. Які будзе адказ гэтым разам, пакажа час.

Уладзімір СІДАРУК

## Найпрыгажэйшыя сядзібы

28 жніўня гэтага года падчас гміннага дажынкавага свята ў Нараўцы Гайнаўскага павета былі ўручаны дыпломы і грашовыя ўзнагароды пераможцам гміннага конкурсу «Найпрыгажэйшыя сялянскія сядзібы ў 2016 годзе ў Нараўчанскай гміне». Удзельнічалі ў ім жыхары дзесяці мясцовасцей. Конкурс арганізавалі ўжо дванаццаты раз.

У катэгорыі «прыхатні кветкавы агародчык і панадворак» першае раўнапраўнае месца заваявалі Зіна і Яўген Рэнты са Скупава (нумар дома 28), Тамара Скепка з Забрадоў (нумар дома 7) ды Барбара і Сымон Бяляўскія з Янова (нумар дома 21). Другое раўнапраўнае месца занялі Лена Харкевіч з Плянты (нумар дома 41) ды Яўгенія і Юрка Равінскія са Старога Ляўкова (нумар дома 30). Два трэція раўнапраўныя месцы занялі Галіна Бірыцкая з Плянты (нумар дома 40) і Галена Анішчук з Семяноўкі (камісія не запісала нумара іх дома).

У катэгорыі «сядзіба» ўзнагароды атрымалі Зіна Раманчук з Альхоўкі (нумар дома 59) ды Юлія і Анатоль Матысюкі з Семяноўкі (камісія не запісала нумара дома) — яны занялі другое раўнапраўнае месца).

У катэгорыі «агратурыстычныя дамы і панадворкі» тры раўнапраўныя першыя месцы занялі «Лясное ранча» Валянціны Германюк са Скупава (нумар дома 94), «Двор пчаляра-бортніка» Марыі і Яўгена Сапёлкаў з Нараўкі (па вуліцы Гайнаўскай, нумар дома 2/1) ды «Бора-здруй» Людмілы і Барыса Казлоўскіх з Новага Ляўкова (нумар дома 93).

Варта адзначыць, што вышэйзгаданыя сядзібы вельмі прыгожыя. Яны надзвычай добраўпарадкаваныя і дагледжаныя.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Новы год, новыя ідэі!

З радасцю адкрываем новы 2016/2017 навучальны год. Гэта для нас шчыльнейшы кантакт з чытачамі, які падпісваюцца на «Ніву» праз пасрэдніцтва школы. Спадзяемся, што і ў гэты раз будзем цесна супрацоўнічаць, ладзіць сустрэчы ў вашых школах, друкаваць артыкулы пра вашы дзеянні, радасці і праблемы. У кожным нумары падрыхтуем для вас любімыя конкурсы. Дзеці і моладзь, зацікаўленыя творчым развіццём, будуць мець шанц працаваць на Сустрэчах «Зоркі».

Апошні сезон, хоць у чорна-белым афармленні, можам лічыць найбольш каларытным. Гаворка пра творы нашых сяброў, якія працавалі на ХХХ Сустрэчах «Зоркі». Практыка паказала, што беларуская мова прэстыжная для нашых школьнікаў. У творчай кампаніі мы яшчэ больш усвядомілі сабе важнасць сувязі з роднай мовай і моц яе крэатыўнасці. Вы самі маглі прачытаць вершы і размовы з паэтамі-пачаткоўцамі. Атрымліваецца так, што расце новае свядомае пакаленне беларусаў.

Другой важнай справай было ўключэнне ўдзельнікаў Сустрэч у святкаванне 60-годдзя «Нівы». Наш уклад праявіўся ў жывых сустрэчах са стваральнікамі часопіса, пасля якіх узніклі інтэрв'ю і размовы, допісы і малюнкі, а нават песні. Тыя, што не паспелі прачытаць усіх канікулярных нумароў, могуць карыстацца архіўнымі экземплярамі тыднёвіка. Там сапраўдныя прыгожасць і энергія.

Калі пра канікулы, варта згадаць і пра нашых верных чытачоў, якія цягам апошніх месяцаў рэгулярна дасылалі адказы на крыжаванкі і загадкі. Для іх падрыхтуем адмысловыя падарункі ў выглядзе беларускіх кніжак.

Ну, а зараз пачынаем новы год і новыя справы. Важна, каб сярод вашых сяброў было як найбольш чытачоў «Нівы», тады нашы артыкулы і ідэі дойдуць да большасці людзей. Перад вамі яшчэ адна важная задача. Многія бацькі, якія выхаваныя ў культуры польскай мовы, карыстаюцца здабытымі ў школе ведамі сваіх дзяцей і разам вывучаюць мову продкаў. У гэтым можа выдатна дапамагчы супольнае чытанне «Зоркі» і ўдзел у нашых конкурсах.

**Зорка**



## Карэспандэнты «Зоркі»



Пры добрым надвор'і, на прыгожым панадворку ў пансіянаце «Бора-Здруй» мы правялі першыя майстар-класы. Мыселі ўкруг на драўляных крэслах і гаварылі пра карэспандэнтаў «Зоркі». Мы даведаліся як пісаць прафесійныя допісы, як трэба асвятляць інфармацыю, каб яна была цікавай і поўнай. Як апавядаць пра здарэнні, якія побач нас, пра паездкі і экскурсіі.

Заняткі вялі рэдактар Ганна Кандрацюк і наша старэйшая сяброўка Наталля Васько.

Наталля расказала як выглядаў яе першы допіс у «Зорку». Спачатку напісала яго па-польску, для школьнай хронікі, але настаўніца беларускай мовы захвоціла яе перакласці і выслаць у «Ніву». Так пачалася шматгадовае сяброўства з газетай. Спачатку Наталля рэгулярна дасылала інфармацыі пра жыццё свайго класа, пасля пачала пісаць пра беларускія святы і падзеі, праводзіла гутаркі з сябрамі. Зараз яна шмат піша ды публікуе. Яна — самая вядомая карэспандэнтка «Зоркі». Пра сваю прыгоду з журналістыкай кажа, што яна дапамагае ёй у развіццi здольнасцей. Усе мы глядзелі на нашу сяброўку з прызнаннем.

Мы таксама атрымалі першую задачу. Кожны меў напісаць допіс пра Сустрэчы «Зоркі».

Адразу мы ўзяліся за работу!

Караліна КАРАВАЙ,
«Зорны шлях»

## УВАГА КОНКУРС! № 36-16

### Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 11 верасня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Глухімі сцежкамі ласінымі
Нядарма ногі ты цягаў:
Грыб пад асінай прыхаваўся
У яркай шапцы, як цыган.
Пада.......

(Кастусь Цвірка)

Адказ на загадку № 33: апенькі.
Узнагароду, каляровыя алоўкі, выйграла Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага.
Віншуем!

# Мы і апошнія сведкі



Пацыфікацыя і знішчэнне падляшскіх вёсак — вельмі важная тэма. Людзі, якія памятаюць здарэнні, не ўмеюць забыць гэтых жахлівых гадоў.

*«Вы — нявінныя ахвяры гітлераўскіх карнікаў, Вы заслужылі пашану і памяць тых, хто застаўся ў жывых. Пакуль на Вашу магілку будзе свяціць сонца, датуль людзі Вас не забудуць і будуць узносіць Вас на хвалу»* — гэта мемарыяльны надпіс у гонар жыхароў сяла Райск, замардаваных 16 чэрвеня 1942 года.

Райск — адна са шматлікіх беларускіх вёсак, спаленых фашыстамі. Кожны год у Райску людзі ўспамінаюць нявінныя ахвяры, сваіх продкаў. На жаль, як кажуць, кожны год іх застаецца менш. Вёска вымірае.

16 чэрвеня — для ўсіх сумны дзень. Ён прыносіць жахлівыя ўспаміны пра расстрэлы і знішчэнне вёскі, выклікае горкія слёзы. Слёзы людзей, якія не могуць прайсці побач абыякава і забыць пра трагедыю.

У гэтым годзе на святкаванне гадавіны пацыфікацыі Райска быў запрошаны тэатральны гурток, які працуе пры Гайнаўскім доме культуры з акцёркай Іааннай Троц. Маладыя акцёры, сярод якіх я таксама мела гонар выступаць, прадставілі спектакль паводле кніжак Святланы Алексіевіч. У нашай пастаноўцы гаварылі мы пра лёсы дзяцей, якія перажылі Другую сусветную вайну. Яны выказваюць такія вось словы:

*«Была такая цішыня, а можа я мела затканыя вушы і мне так здавалася, што ціха, што ўсё замерла»...*

*«Дзе Бог? Дзе ён хаваецца? Я ўжо сабе ўявіла, што яны нас застрэляць і нас ужо не будзе...»*

*«Дзядзьку, вы будзеце ў мяне страляць..?»*

Словы кніжных герояў паўтарылі маладыя акцёры, для якіх найбольшай узнагародай з'яўляюцца ўвага і ўдзячнасць гледачоў. Мы будзем памятаць пра пацыфікацыю Райска.

Хаця сведкі паміраюць, дык маладыя перакажуць успаміны далей, каб яны не загінулі.

Для нас важна, каб захаваць гістарычную памяць народа, бо тады лягчэй рабіць жыццёвыя выбары.

**Наталля Васько,**
«Зорны шлях»



Малюнак Караліны Каравай

Уля Марчук, «Зорны шлях»

* * *

**Жыццё бяжыць так хутка**
**і стварае нам розныя праблемы,**
**ставіць нас перад цяжкімі выбарамі...**

**У жыцці многа дарог.**
**Ты выбраў адну,**
**я выбіраю сваю.**
**Нашы шляхі разлучыліся назаўсёды.**

**Так, я цяпер сумую па Табе,**
**увесь час думаю пра Цябе**
**і шукаю Тваёй зорачкі ў небе.**

## Вершы Віктара Шведа



### Ці верыш у гараскопы?

Пытае бабу Веру
Яе ўнучак Сцёпа
— Скажы мне, ці ты верыш
Бабуля ў гараскопы?

— Ільвы мы, гонар маем
І мы не філантропы.
Таму не даляраем
Ніводным гараскопам.

### Ноты а не пісаніна

Бацька аглядае сшытак
Нядбайнага сына:
— Пішаш нейкі тэкст нібыта
Няроўна і бязвінна.

Гэта ж, сыну, не работа
Драпанне птушыны.
— Гэта ж, татка, толькі ноты
А не пісаніна.

## Польска-беларуская крыжаванка № 36-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 32:**

Код, тон, гонар, душа, ратуша, так, рогі, Ада, набат. Кіт, дата, гута, пошук, наш, ара, тры, Об, га, касміт.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Сара Скаўронская** з Беластока і **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Wszystko | | Do (nuta) / Statek | Liryk / Cud | | | Pasek |
| Współczucie / Nasz | | Goście / Kula | | | | | | Chińskie imię | |
| | | | Skan | Tur / Piec | | | | Nuta | |
| Gospodyni / Parkiet | | | | | | | | | |
| | | | | | | Kos | | | |
| Bajan | | Ogniska domowe | | | | | To | | |
| | | | | Kark | | | | | |

# XXII Спасаўскія запусты ў Бельску-Падляшскім



■ Мы выконваем фальклорныя песні, перш за ўсё з Бельшчыны і Гайнаўшчыны, — сказала кіраўнік «Жэмэрвы» Анна Фіёнік (стаіць злева)



■ «Маланка»

«Спасаўскія запусты», арганізаваныя ў Бельску-Падляшскім перад Успенскім постам, які папярэджвае святкаванне Успення Прасвятой Багародзіцы і называецца Спасаўкай, сталі важным культурным мерапрыемствам, якое прасоўвае культуру беларускага, праваслаўнага насельніцтва Бельшчыны. Спачатку запусты накіраваны былі да жыхароў Бельска-Падляшскага, але мерапрыемства разраслося і хаця арганізуецца ў гарадскім амфітэатры, з'язджаюцца на яго таксама беларусы з суседніх гмін. Павятовае праўленне БГКТ у Бельску-Падляшскім, аб'яднанне «Бельская калісца» і Бельскі дом культуры з'яўляюцца арганізатарамі мерапрыемства, а фінансава падтрымліваюць яго бургамістр і Рада горада Бельск-Падляшскі, стараста і Рада Бельскага павета, войт і Рада Бельскай гміны. 13 жніўня, напярэдадні посту, у бельскім амфітэатры сабралася публіка, каб паслухаць беларускія песні і паглядзець нашы танцы. Традыцыяй «Спасаўскіх запустаў» стала ўжо прэзентацыя сенакоснага або жніўнага абрадаў, якія пачынаюць мерапрыемства.

Сёлета «Спасаўскія запусты» пачаліся з абраду «Сенакосы» ў выкананні членаў хору «Васілёчкі» і вучняў, якія займаюцца ў тэатральным калектыве «Антракт» Бельскага дома культуры. Мужчыны выйшлі касіць траву і мімаволі падкасілі суседаў луг. Завязалася эмацыйная гутарка, якая ў мінулым магла пераўтварыцца ў вялікую сварку.

— Абрадныя сцэнкі «Сенакосы» ці «Жніво» можна яшчэ ўбачыць на фальклорных мерапрыемствах, якія арганізуе Музей малой айчыны ў Студзіводах. Тут людзі могуць пазнаёміцца з нашым аўтэнтычным фальклорам. А мы будзем яшчэ выступаць з беларускімі народнымі песнямі ў апрацоўцы нашага музычнага кіраўніка Міколы Фадзіна, — сказала Ніна Бялецкая, арганізацыйная кіраўнік хору «Васілёчкі», які ў другой частцы запустаў выступіў з багатым песенным рэпертуарам.

— Прэзентацыя «Сенакосаў» — павучальная сцэнка, асабліва для дзетак, частка якіх нават не ведае, што ў мінулым траву касілі косамі, — распавядала спявачка з «Васілёчкаў». Рэпетыцыі і выступ у амфітэатры з абрадам «Сенакосы» адбываліся пад наглядам інструктара па тэатральных занятках Бельскага дома культуры Альжбеты Фіёнік. Яна разам з бельскім радным Тамашам Сулімам вяла мерапрыемства і займалася яго арганізацыйнымі пытаннямі.

«Спасаўскія запусты» адкрылі старшыня Павятовага праўлення БГКТ у Бельску-Падляшскім Васіль Ляшчынскі і бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі. На пленэрнае мерапрыемства прыбылі таксама старшыня Рады горада Бельск-Падляшскі Ігар Лукашук, бельскія радныя, войт Бельскай гміны Раіса Раецкая і старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» Дарафей Фіёнік.

— «Спасаўскія запусты» арганізуюцца ў перыяд, калі навакольная прырода яшчэ развітая. Спевам на сцэне, танцам і гульням спрыяе прыгожая прырода, якая нас акружае. У мінулым пасля радасных дажынак прыходзіла Спасаўка — час роздуму і рэфлексіі. Гэты пост канчаецца святкаваннем Успення Прасвятой Багародзіцы, якое таксама было святам ураджаю. Тады асвячаліся каласкі сабранага збожжа, яблыкі, грушы. Падчас нашых «Спасаўскіх запустаў» мы спасылаемся на нашы рэлігійныя і народныя традыцыі. Прэзентуем неапрацаваны фальклор нашых продкаў. Паказвалі мы «Зажынкі», «Жніво», «Дажынкі», сёння прэзентуем «Сенакосы», якія таксама характэрныя летняму, радаснаму перыяду. Праца і адпачынак на нашых вёсках суправаджаліся песнямі, якіх многа гучыць падчас запустаў, якія сталі ўжо традыцыяй нашага горада. Жыхары Бельска чакаюць «Спасаўскіх запустаў», дапытваюцца пра дату мерапрыемства, — сказала Альжбета Фіёнік.

Фальклорны калектыў Музея малой айчыны ў Студзіводах «Жэмэрва» заваражыў публіку сваімі вельмі моцнымі і заадно мілагучнымі, дзявочымі галасамі.

— Мы выконваем фальклорныя песні, перш за ўсё з Бельшчыны і Гайнаўшчыны, якія спяваліся ў полі і на лавачках. У нашым рэпертуары ёсць таксама фальклорныя творы з Палесся, — заявіла кіраўнік «Жэмэрвы» Анна Фіёнік.

Тамаш Суліма са Студзіводскага музея звярнуў увагу на асаблівую каштоўнасць неапрацаванага фальклору, які спадарожнічаў нашым продкам у розных жыццёвых момантах і цяпер штогод прэзентуецца падчас «Спасаўскіх запустаў».

— У дзевяностых гадах паявілася ідэя супольна ладзіць беларускае мерапрыемства ў Бельску-Падляшскім і ўсе мясцовыя беларускія арганізацыі ўключыліся ў яго арганізацыю. На сцэне сталі выступаць нашы беларускія калектывы. Назву «Спасаўскія запусты» запрапанаваў Юрка Асеннік, які знайшоў яе ў даўнім календары. Мы зрабілі стаўку на нашы беларускія традыцыі і побач выступаў калектываў рашыліся прэзентаваць на сцэне жніўныя і сенакосны абрады. Цяпер кожны год на нашы запусты запрашаем калектыў з Беларусі, — сказаў Сяргей Лукашук, былы шматгадовы дырэктар Бельскага дома культуры. Ён надалей з'яўляецца музычным кіраўніком калектыву «Маланка», які дзейнічае пры Музеі малой айчыны ў Студзіводах. «Маланка» захапіла сабраных у амфітэатры выступамі сола, у дуэце і ў поўным складзе.

— «Спасаўскія запусты» сталі ўжо пастаянным беларускім мерапрыемствам у нашым горадзе, падчас якога прэзентуюцца нашы абрады і беларускі музычны рэпертуар. Былі іншыя прапановы — у рамках «Спасаўскіх запустаў» ладзілі мы, напрыклад, сустрэчы, мастацкія выставы, дэманстрацыі фільмаў. Я раней гаварыў пра патрэбу пашырыць формулу «Спасаўскіх запустаў» на новыя прапановы, але з гэтым не атрымалася. У нас аднасна невялікія сродкі на арганізаванне «Спасаўскіх запустаў», галоўным чынам ад мясцовых самаўрадаў. Каб выйсці з новымі прапановамі, трэба нам старацца атрымаць грошы з дзяржаўнага бюджэту або з Падляшскага сейміка, але здабыць сродкі з гэтых крыніц няпростая справа, — гаварыў старшыня Павятовага праўлення БГКТ у Бельску-Падляшскім Васіль Ляшчынскі, былы шматгадовы дырэктар бельскай «тройкі», зараз радны і член управы Бельскага павета.

— Сёння раніцай калектыў «Антракт» выступіў у Кобрыне на Фестывалі «Марафон маладзёвай творчасці», у ходзе якога прэзентаваліся, між іншым, песні, танцы, тэатральныя спектаклі. Наш «Антракт» заняў другое месца ў тэатральнай катэгорыі, а саступілі мы толькі тэатральнаму калектыву з Масквы. Яшчэ перад абедам мы выехалі з Кобрына, каб паспець на «Спасаўскія запусты». З намі прыехаў калектыў «Крынічка» з Кобрына, які неўзабаве выступіць на сцэне, — заявіла Альжбета Фіёнік.

— Наш Народны тэатр песні, музыкі і гульні «Крынічка» з Кобрына прэзентуе неапрацаваны фальклор, які абапіраецца на розных порах года і сямейных мерапрыемствах. Аднак мы ў асноўным выступаем з народнымі беларускімі песнямі ў апрацоўцы і з аўтарскімі эстрадными беларускімі творамі. Нас папрасілі перш за ўсё развесяліць мясцовую публіку і мы будзем выконваць меладычныя, вясёлыя песні, якія будуць суправаджацца танцавальнымі прыёмамі, — сказала Валянціна Кірылюк, музычны інструктар Палаца культуры ў Кобрыне і заадно спявачка.

Калектыў «Крынічка» сваім спевам моцна захапіў сабраных. Жанчыны з кобрынскага калектыву запрасілі бельскіх мужчын станцаваць з імі. На пляцоўцы перад сцэнай таксама асобы з публікі танцавалі пад гукі капэлы «Крынічкі», якой козырам былі традыцыйныя музычныя інструменты.

Вакальны калектыў «Луна» з Парцава запрэзэнтаваў меладычныя песні.

— Мы зараз свае рэпетыцыі праводзім у Бельскім доме культуры, а займаецца з намі тамашняя інструктар па музыцы Юстына Пажазінская. Падчас «Спасаўскіх запустаў» мы выступаем часта, а на гэтае мерапрыемства прыязджаюць таксама людзі з навакольных вёсак Бельскай гміны, якой прадстаўніком мы з'яўляемся, — гаварыў спявак з «Луны».

Цікавым быў выступ Анны Гебхарт-Амельянюк, якая родам з Градалёў, але ўжо каля сарака гадоў жыве ў Германіі. Летам яна рэгулярна прыязджае адпачываць на Бельшчыну і, калі ёсць у яе магчымасць, наведвае «Спасаўскія запусты». У гэтым годзе заспявала яна па-свойму і па-нямецку, а пазней выявіла радасць з-за ўдалага выступу на сцэне. Цешыліся пасля ўдалых выступаў таксама дзеткі з бельскай «тройкі» — Ксеня Зінкевіч, якую рыхтавала да спеву на сцэне яе маці Марта Зінкевіч і Юсціня Ярашэвіч, якая рыхтавалася да выступу пад наглядам настаўніцы бельскай «тройкі» Марыянны Ваўрусевіч. Апошнім перад публікай запрэзэнтаваўся вакальна-інструментальны калектыў «Вясна» з Беластока, які іграе на вяселлях і забаўляльных імпрэзах. Ахвотныя маглі патанцаваць пад гукі музыкі гэтага гурта.

— Мы выконваем песні на беларускай і іншых славянскіх мовах, а спяваем і іграем перш за ўсё ў Беластоку. Цешымся, што можам запрэзэнтавацца перад бельскай публікай, — сказаў мне Тамаш Трахімчук, лідар вакальна-інструментальнага калектыву «Вясна». Маленькія дзеткі, якіх на беларускае мерапрыемства прывялі бацькі, паспрабавалі танцаваць пад гукі музыкі ўжо ў пачатку імпрэзы. Карысталіся яны таксама атракцыёнамі гарадка гульняў і прапановамі ларкоў з ласункамі.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Каплічкі з гаючай вадою

**На Спаса наш народ масава паломнічае на Гару Грабарку, крышку людзей падаецца ў Сакі. У гэты дзень прыходскае свята таксама і ў вёсцы Сасіны. Падаюся пабачыць, як яно там выглядае. З Кляшчэль, дзе злажу з поезда, па абноўленай асфальтоўцы ў бок Сямятыч інтэнсіўным патокам прасоўваюцца легкавушкі — на Грабарку. А я з Дашоў, праз Пятроўшчыну і Снежкі — у Сасіны.**

На прыцаркоўнай стаянцы крыху машын, але перад самой царквой пахавальная павозка, значыць хаваюць пакойніка. І ў такіх абставінах складана ацаніць, колькі людзей адводзіць пакойніка, а колькі з іх толькі на прыходскім свяце. Пропаведзь пра біблейскую алегорыю, пра духоўнае ўзыходжанне на гару Фавор...

Як падае легенда, была калісь у Сасінах крыніца з гаючай вадою. Мікола Гайдук: „Калі ў вёсцы Сасіны стаяла яшчэ старая царква, каля яе біла крыніца з жывой вадою. Прыходзілі сюды людзі хворыя і кульгавыя, мыліся жывою вадою і адыходзілі здаровымі. Слава аб цудоўнай крыніцы ішла далёка па свеце. Усё больш і больш прыходзіла з розных краёў людзей няшчасных на лячэнне. Аднойчы прыйшла аднекуль да крыніцы знатная пані з хворым сабакам. Яна без дазволу выкупала сабаку ў жывой вадзе.

— Што ты робіш? — абурыліся хворыя і калекі. — Ці ж можна купаць у цудоўнай крыніцы нячыстае стварэнне?

— Мой сабака чысцейшы ад вас, паганых, — фанабэрыста адказала пані.

Ніхто з людзей не пасмеў пярэчыць знатнай пані. І як толькі панскі сабака вылез з вады, на вачах у людзей берагі крыніцы сышліся, жывая вада знікла. Людзі кінуліся ратаваць цудоўную крыніцу. Адкопвалі яе чым хто мог. Капалі і рыдлёўкамі, і рукамі. Капалі многа і доўга. Але не маглі трапіць на яе след. Зямля ўсюды была сухая. Пасмутнеўшыя, разбрыліся па сваіх хатах. Праз нейкі час на месцы цудадзейнай крыніцы зноў паявілася вада. Але яна ўжо не біла халодным струменем, а кропля за кропляй сачылася, быццам слёзы па загубленым шчасці...”.

Народу было столькі, што можа і памесціўся б ён у не надта прасторнай царкве. Але шматлікія мужчыны асталіся звонку, занятыя дзелавымі размовамі; так у нас агульна выглядаюць і прыходскія святы, і пахавіны. І складана ацаніць, колькі гэтага народу прыехала звонку, а колькі яшчэ пражывае ў вёсцы. На аўтобусным прыпынку пасярэдзіне вёскі вісіць расклад язды з 2010 года...

Пра шматлюднасць на прыходскім свяце ў Сасінах можна, аднак, меркаваць ускосна. Менавіта не было там ніводнага ларка з тыповымі фэставымі прапановамі. Відаць, камерсанты ўсялякіх фетышаў палічылі, што попыт на іх вырабы будзе тут нерэнтабельны і масава кінуліся ў паломніцтва на недалёкую Грабарку, дзе, як мне здаецца, больш івенту чым набожнага свята...

Мясцовасць Сасіны называлі таксама і Калечыцамі. І абедзве назвы браліся ад прозвішчаў даўніх уласнікаў вёскі: Сасіных і Калечыцкіх; таксама і Сапегі нейкі час тут уладарылі. Быў тут маёнтак, збудаванні якога расцярушыліся ў час Другой сусветнай вайны і сёння па іх і следу няма.

Зыгмунт Глогер у Старапольскай энцыклапедыі: „Niegdyś w każdym domu polskim, gdzie umiano pisać, a zwłaszcza po dworach wiejskich, posiadano księgę z czystego papieru, rodzaj pamiętnika, do którego wciągano przedewszystkiem rzeczy, spraw publicznych dotyczące. Ogólnie zaś nazywano je pierwej djarjuszami a potem *Silva rerum* czyli lasem rzeczy. W sylwach, prowadzonych przez kilka pokoleń, znajdują się nieraz ciekawe wskazówki porównawcze do poznania następujących po sobie ludzi i czasów oraz wpływów, jakim każde pokolenie ulegało. Oto np. próbka z niedrukowanego pamiętnika Kaleczyckich: Król Zygmunt I w roku 1524 daje szlachcicowi mazowieckiemu, Stanisławowi Sasinowi, Kaleczyce w województwie Brzesko-litewskiem. Mazur osiada na Rusi, a syn jego buduje już własnym kosztem dwie cerkwie, w Rohaczach i Kaleczycach. Wnuk Stanisława nosi już rusińskie imię Siemen, a prawnuk Wasil. Krew i mowa mazowiecka a obyczaj przyjmują od Rusi. Rodzina bowiem mazowiecka, przywykła do opieki, jaką kolatorzy otaczali swoje kościoły na Mazowszu, znalazłszy w Rohaczach i Kaleczycach lud wschodniego obrządku bez pociechy religijnej i domów Bożych, buduje mu takowe, uposaża i troskliwie opiekuje się nimi, aby chwałę Bożą szerzyć podług miejscowego obyczaju. Osiadłszy wśród Rusinów, uczył się Mazur ich mowy, przejmował ich zwyczaje, szedł modlić się do ich cerkwi, a jeżeli takowej blizko nie miał a lud pod osłoną warownego dworu i mężnego szlachcica mnożył się, to ten budował mu cerkiew, uposażał, parocha osadzał i dzieci swoje w niej chrzcił, którym nadawał imiona Wasilów, Semenów, Danielów, jak to w pamiętniku Kaleczyckich widzimy...”.



Царква ў Сасінах

З Сасін падаюся ў суседнюю вёску Быстры; на тапаграфічнай карце пазначана там капліца. Аднак ніякай капліцы там не заўважаю, адно два высокія лацінскія крыжы пры жвіроўцы з Боцькаў у Мілейчычы ды ўсходні крыж пасярэдзіне вёскі...



Тут была каплічка

Сорак гадоў таму Мікола Гайдук так пісаў пра Быстры: „Людзі тут вельмі дружныя і таварыскія, не любяць сварыцца або цягацца па судах, і ў радасці і ў няшчасці, не толькі калісь, але і цяпер яны заўсёды трымаюцца разам. У абрадах, звязаных з нараджэннем дзіцяці і паўстаннем новай сям'і, яшчэ і цяпер удзельнічае ўсё сяло, таксама дарослыя і малыя ўсёй грамадой праводзяць пакойніка. (...) У гэтых ваколіцах дзейнічалі партызаны. Асабліва вялікую аператыўнасць праяўляў атрад імя Пархоменкі, на чале якога быў савецкі афіцэр С. Дзікуноў. Яны ўзрывалі цягнікі на чыгуначнай лініі Бельск — Чаромха, палілі нямецкія маёнткі. С. Дзікуноў загінуў у часе выканання баявога задання...”. Беластоцкі гісторык Міхал Гнатоўскі ў сваім даведніку пра савецкую партызанскую дзейнасць на аснове звестак з Нацыянальнага архіва Беларусі прыводзіць пяць эпізодаў гэтай аператыўнасці. 22 студзеня 1944 года атрад зладзіў засаду на немцаў каля Грузкай, якую немцы заўважылі і ў выніку перастрэлкі мела загінуць двух немцаў. 7 красавіка каля Снежак атрад біўся з галандцамі, забіваючы трох з іх і трацячы двух сваіх. 23 красавіка партызаны спалілі ў Бельску гараж з самаходамі, 27 мая спалілі мост на шашы з Бельска ў Гайнаўку і ў той жа сам дзень пусцілі пад адхон цягнік між Бельскам і Чаромхай.



Легендарны камень

З Быстрых падаюся ў напрамку Нурца і, далей, Шашыл. У Нурцы паказальнік, што ў вобрубе Шашыл знаходзіцца месца змагання і пакут...

Пасярэдзіне Шашыл, пасярэдзіне брукаванай вуліцы размаўляюць маладая жанчына з пажылым мужчынам. Пытаю іх пра месца змагарнай памяці...

— Нічога ўжо там няма, усё расцягнулі, — інфармуе мужчына, — яшчэ нядаўна быў там камень, дый той нехта забраў. У вайну там лётчыкі былі...

Мемарыял каля Шашыл быў узведзены трыццаць гадоў таму. Віктар Рудчык так быў пісаў пра тую падзею: „За звычайнай жалезнай агароджай паклалі на цэментавым падмурку звычайны, хаця і даволі вялікі палявы валун, а на ім замацавалі дошку з надпісам: „На гэтым узгорку ў гадах 1943-1944 мела сваё месцазнаходжанне група парашутыстаў „Дальня”, якія змагаліся з нямецкім акупантам: капітан Мікалай Хмялеўцаў, старшы лейтэнант Мікалай Нячаеў, лейтэнант Дмітрый Новікаў, тэлеграфіст Уладзімір Шытаў, кур'ер Ян Анацік. Гонар ім і слава. Грамадскасць гміны Боцькі. 1986.VIII.31”. Урачыстасць на ўзгорку ва ўрочышчы Кабыліна Галава ператварылася ў антываенны мітынг, у якім удзельнічалі прадстаўнікі грамадскасці гміны Боцькі, Бранск, Бельск, Орля, Кляшчэлі, Мілейчыцы, Вышкі і Нурэц-Станцыя. Прыехалі прадстаўнікі ваяводскіх партыйных і адміністрацыйных улад. Галасы супраць гонкі ўзбраення, якую намагаецца накінуць свету цяперашняя рэйганаўская адміністрацыя, паўтараліся ў кожным выступленні на гэтым узгорку за вёскай Шашылы...”. Яшчэ трыццаць гадоў таму на той Кабылінай Галаве ўзводзілі адмысловую капліцу для пакланення прызямліўшымся там анёлам тагачаснай усявышнасці, а зараз і след па ёй прастыў...



Капліца на могілках у Шашылах

З Шашыл падаюся ў напрамку Краснага Сяла. Зараз за вёскай выдатна захаваны крыж на цэментным цокалі з 1906 года. У лесе разглядаюся вакол дарогі за іншай капліцай, што была ўзведзена ў 1986-1987 гг. над крынічкай непадалёк ад гэтай дарогі жыхарамі Краснага Сяла, аднак звочыць яе мне не ўдалося...

З Краснага Сяла кіруюся ў бок чарговай каплічкі, а дакладней — у бок месца па каплічцы, што побач Кнарыд. Апоўначы 1 жніўня ўспыхнуў там агонь і цягам гадзіны паглынуў тое невялічкае культавае збудаванне з 1872 года. Ад самой каплічкі нічога не асталося, апрача шэрага бетоннага падмурка. Моцна абгарэлі дошкі ад сучаснай кладкі вакол капліцы; някрануты агнём лясок навакольных крыжоў ды невялікі валунчык побач...

Паводле легенды, якую ў кнізе „Święte miejsca i cudowne ikony” прыводзяць а. Рыгор і м. Антаніна Сосны, крыніца з гаючаю вадою вядомая здаўна. Бацька, які вёў невідучага сына, спыніўся ў лесе на падмоклай палянцы. Перад ім паказалася стаячая на валуне Багародзіца. Калі невідучы хацеў дакрануцца да яе вопраткі, постаць знікла, а з-пад каменя прабілася крынічка. Абмыўшы твар, невідучы акрыяў зрокам. У тым месцы была ўзведзена каплічка Іконы Багародзіцы „Усіх тужлівых Радасць”, а побач астаўся камень са следам ступні Багародзіцы... Паводле іншай легенды, тут таксама нейкая пані выкупала сабачку, але крынічка захавала частку гаючай моцы...

На пажарышча прыходзяць і прыязджаюць людзі, сем'ямі. У маёй прысутнасці з'явілася сямейка з Бельска з... сабачкам. Аднак крынічка замураваная і вада з яе выліваецца навонкі трубкай. Няма тады пагрозы, што крынічкай пакарыстаюцца „нячыстыя стварэнні”, напрыклад, безгаспадарныя цюцькі або нейкая палявая ці лясная звярына...

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Школьніцтва ў Орлі

**Цягам апошніх 25-35 гадоў штораз менш нараджаецца дзяцей. Гэтая з'ява асабліва кранула вясковыя абшары, выклікаючы ліквідацыю амаль усіх школ, апрача адзінай у гміне, у мясцовасці з сядзібай гміннай управы.**

Да канца XIX стагоддзя Орля мела гарадское права, аднак тады народ не меў доступу да асветных устаноў. У кастрычніку 1884 года на тэрыторыі Арлянскага прыхода былі адкрыты г.зв. «падвіжныя» (рухомыя) школы, якія ў той час давалі сялянскім дзеткам шанс навучыцца грамаце. Гэтыя аднакласныя асветныя ўстановы, якія не базіраваліся ў пастаянных памяшканнях, дзейнічалі ў пяці вёсках: Шарнях, Рудутах, Крывятычах, Тапчыкалах і Пашкоўшчыне.

З 1901 года ў Арлянскім прыходзе былі ўжо адно народнае вучылішча і сем рухомых школ. У той час школа ў Орлі размяшчалася ў некалькіх драўляных будынках, а ў міжваенны перыяд была пераведзена ў комплекс вялікіх драўляных будынкаў, у якіх раней быў шпіталь. Пасля Другой сусветнай вайны быў узведзены яшчэ адзін вялікі драўляны школьны будынак, а частку былых шпітальных збудаванняў прыстасавалі для патрэб дзіцячага садка, бібліятэкі, дома культуры, клуба і гміннай управы.

Шпіталь у той час быў толькі ў Орлі, а не было такой установы, напрыклад, у Бельску-Падляшскім. Будынкі колішняга шпіталя ў 1984 годзе (будынак з чырвонай цэглы крыху пазней) былі прададзены і знесены, паколькі патрэбны быў пляц пад будову новай пачатковай школы. На час зносу не дзейнічаў дзіцячы садок.

Пасля вайны драўляныя будынкі, побач пачатковай школы, займала яшчэ школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Навучанне дзяцей беларускай мове ў арлянскай школе — як успамінаюць старажылы — вялося заўсёды.

У 1980-х гадах завязаўся ў Орлі грамадскі камітэт пабудовы пачатковай школы, які рабіў вялікія намаганні каб як найхутчэй пачаць будову. Беручы пад увагу тое, што Беласточчыну называюць «зялёнымі лёгкімі Польшчы», планавалася ладзіць тут у час канікул лячэбны адпачынак для хворых дзяцей. Будаўнічыя працы пачаліся ў атмасферы прыгожых планаў і спадзяванняў.

Новую Пачатковую школу з беларускай мовай навучання ў Орлі здадзена ў карыстанне 17 снежня 1992 года. Узводзілі яе сем гадоў на сродкі дзяржаўнага бюджэту і пры фінансавай падтрымцы мясцовай Гміннай управы.

Ва ўрачыстым адкрыцці школы ўдзельнічалі таксама госці з Беларусі — з Мінска і Гродна — з мастацкай часткай. Прысутны на ўрачыстасці прадстаўнік Міністэрства культуры Беларусі Аляксандр Сасновіч, будучы музычны інструктар у новай арлянскай школе, прыдбаў для гэтай навучальнай установы музычныя інструменты: піяніна «Беларусь», цымбалы і акардэоны. Аднак, апынуўшыся на Беласточчыне, у Орлю трапіла толькі два піяніна.

Пасля двухгадовай плённай працы на музычнай ніве ў школе і з народным калектывам «Арляне» рашэннем арлянскай Гміннай управы было спынена супрацоўніцтва з амбітным мінскім інструктарам. Змяніў яго новы малады чалавек, які, хаця запэўніваў па радыё, што створыць трохгалосы школьны хор, сам неўзабаве адмовіўся ад працы ў Орлі.

У 2012 годзе некаторыя былыя члены грамадскага камітэта пабудовы школы запрапанавалі дырэкцыі школы адзначыць дваццацігоддзе адкрыцця новай школы — каб маладыя даведаліся аб укладзе працы ў яе пабудову, аднак засталося гэта без водгаласу.

У новым аграмадным, разлічаным на пяцьсот вучняў, школьным комплексе, у навучальным 2016/2017 годзе (паводле інфармацыі Гміннай управы) вучыцца 210 вучняў ды адзін па-за школай (у мінулым навучальным годзе вучылася 217 вучняў); беларускую мову вывучае палова вучняў падстаўскі і гімназіі. Заняты тут 33 настаўнікі, у адміністрацыі і абслугоўванні працуе 15 асоб, чатыры асобы будуць узяты на працу на акрэслены перыяд пасля завяршэння шасцімесячнага стажу кампенсаванага бельскай Управай працы, дзве асобы заняты ў рамках інтэрвенцыйных прац. На абагравальны сезон прадбачваецца заняцце трох апальшчыкаў цэнтральнага ацяплення.

Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Арлянскай зямлі ў Орлі (пачатковая школа, гімназія і дашкольнае аддзяленне) з'яўляецца адзінай асветнай установай у гміне. У вялікім і прасторным будынку ёсць сямнаццаць класных залаў, дзве камп'ютарныя майстэрні, святліца, сталовая з кухоннай базай, гімнастычная зала з базай ды бібліятэка.

Сваю сядзібу ў школьным будынку мае таксама гмінная бібліятэка (у падвале), стаматалагічны кабінет ды кабінет масажу, адкрыты ў рамках праекта «Гмінная рэабілітацыя». На школьным пляцы знаходзіцца комплекс спартыўных пляцовак, пабудаваных у рамках праграмы «Moje boisko — Orlik 2012» ды пляцоўка для гульняў, пабудаваная ў рамках праграмы «Radosna szkoła».

У рамках падрыхтоўкі да новага школьнага года адрамантаваны дзве прыбіральні для персаналу ды адна класная зала. У ходзе рэалізацыі была замена электралямпак на калідорах і ў класных памяшканнях.

Міхал МІНЦЭВІЧ




Пэўна, толькі закаханы ў сваю мясцовасць чалавек можа знайсці ў сабе сілы і жаданне многа гадоў пісаць пра яе на адмыслова створаным сайце. І няхай гэты сайт будзе не вельмі аздобленым разнастайнымі ўпрыгожаннямі і там будзе мноства недахопаў, але бачна, што яго ўладальніку надта хочацца распавядаць у Сусветным сеціве пра сваю ўлюбёную мясціну.

Ёсць у Беларусі горад Ганцавічы, які знаходзіцца на паўночным усходзе Брэсцкай вобласці, якая мяжуе з Падляшскім ваяводствам. Па вялікім рахунку, звычайная заходнебеларуская мясціна, але, дзякуючы „Ганцавіцкаму краязнаўча-інфармацыйнаму парталу", кожны інтэрнэт-карыстальнік можа пабачыць гэты край так, як бачаць яго мясцовыя жыхары.

Калі мы набярэм на сваім камп'ютары адрас у інтэрнэце **http://www.gants-region.info**, то перад нашымі вачыма адкрыецца даволі прывабнае і ў той жа час спакойнае па каляровай гаме выяўленне галоўнай старонкі сайта. На сіне-блакітным фоне месцяцца фотаздымкі помнікаў і старых будынкаў Ганцавічаў і ваколіц, а ніжэй ідуць анонсы навінных паведамленняў, таксама аздобленыя фотаздымкамі.

З правага боку галоўнай старонкі — выйсці на розныя рубрыкі сайта. Дарэчы, іх даволі многа, праўда, не ўсе з іх утрымліваюць інфармацыю, якая тычыцца непасрэдна Ганцавіцкага краю.

Кім быў створаны дадзены сайт і з якой мэтай — нідзе не ўказваецца. Таму даведацца аб рупліўцах на ніве папулярызацыі Ганцавічаў даведацца немагчыма, але далучыцца да іх можна. „Шаноўныя сябры! Калі вы маеце нейкую інфармацыю пра гісторыю, культуру, этнаграфію Ганцаўшчыны і хацелі б яе змясціць у Сеціве, вы можаце звязацца з намі напісаўшы ў форму зваротнай сувязі", — распавядаецца ў самым нізе выяўлення.

Паведамленні на краязнаўча-інфармацыйным партале абнаўляюцца даволі часта. Гэта сведчыць пра тое, што ўжо цягам васьмі гадоў ён запатрабаваны, а значыць мае свайго чытача.

Сайт, які па ўсім відаць, быў задуманы як беларускамоўны, не мае ніякіх іншых моўных версій. У той жа час на ім змяшчаюцца рускамоўныя тэксты. Такая мяшанка даўно выклікае крытыку, але яна адлюстроўвае цяперашнюю моўную сітуацыю ў Беларусі, калі людзі не бачаць неабходнасці ў падачы адной і той жа інфармацыі на абедзвюх дзяржаўных мовах.

Акрамя навінных паведамленняў, для таго, хто хоча больш ведаць пра ганцавіцкае мінулае і сучаснасць, можа быць цікавай рубрыка „Публікацыі". Там месцяцца разнастайныя публіцыстычныя тэксты, з якіх можна даведацца пра паэта Берасцейшчыны Міхася Рудкоўскага, пра малавядомы эпізод савецка-польскай вайны, пра надмагільныя камяні з «рускімі» надпісамі XVI-XVII стст. каля вёскі Малькавічы, палітычныя інцыдэнты ў Круговіцкай гміне ў 1922 годзе і іншыя так ці інакш датычныя Ганцавіцкага краю працэсы і падзеі.

А вось рубрыка са шматабяцаючай назвай „Малая краязнаўчая энцыклапедыя" ўтрымлівае даволі дзіўную інфармацыю. Там пералічаныя літары беларускага алфавіта ад „А" да „Н" з расповедам аб іх. Што ў тым краязнаўчага, вядома, відаць, толькі ўладальнікам партала.

Паколькі сайт мультымедыйны, то там у рубрыцы „Відэатэка" можам пабачыць і відэасюжэты, датычныя ганцавіцкага жыцця.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з календара

### Сягаў паэтычным словам увысь



## 80 гадоў з дня нараджэння Генадзя Бураўкіна

**Генадзь Бураўкін** — дзяржаўны дзеяч, прадстаўнік Рэспублікі Беларусь у ААН, стваральнік нацыянальнага тэлебачання, але найперш вялікі Паэт і Чалавек. Нарадзіўся ён 28 жніўня 1936 г. у вёсцы Шуляціна (цяпер Тродавічы, Расонскі раён). Пасля вайны скончыў журфак БДУ. Працаваў у Мінску ў розных беларускіх часопісах і газетах. У 1978-1990 гг. — старшыня Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні. Аднак за падтрымку дэмакратычных сіл і прадстаўленне эфіру лідарам БНФ быў вызвалены з пасады і накіраваны на дыпламатычную працу. У 1990 г. прызначаны пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры ААН, але ў 1993 г. звярнуўся да старшыні ВС Рэспублікі Беларусь з просьбай аб вызваленні з пасады. Пасля вяртання, у 1994-1995 гг. быў намеснікам міністра культуры і друку. Адзін з ініцыятараў прыняцця Закона аб мовах, пэўны час — старшыня ТБМ імя Скарыны. Працаваў у часопісе „Вожык".

Бураўкін зрабіў больш для адраджэння роднай мовы, чым многія арганізацыі і ўстановы. Напісаў мноства адметных твораў, якія ляглі ў скарбонку беларускай паэзіі. Многія з вершаў сталі папулярнымі песнямі: „Я не ганю земլі чужыя" і „Незнаёмка", „Малітва" і „Белы снег", „Матылі" і „Зачараваная" — класіка нашай песеннай культуры. Але найбольш і па-сапраўднаму народнай стала менавіта „Калыханка" („Доўгі дзень"), музыку да якой напісаў стваральнік ансамбля „Верасы" Васіль Раінчык.

Заўсёды ўражвала сціпласць Генадзя Бураўкіна і яго ўважлівасць да іншых. Ён не меў ні кроплі фанабэрыі, уласцівай многім іншым творцам. Нават намнога маладзейшых ён запамінаў з першага разу, ведаў, хто чым займаецца, трымаўся ў кампаніі на роўных. Расказваў такія гісторыі са свайго жыцця, якія проста прасіліся на дыктафон. Быў носьбітам сапраўднай інтэлігентнасці і ўзорам беларускай прыстойнасці. Неяк так здаралася некалькі разоў, што прыязджаючы ў Мінск, мне шчасціла сустракаць яго выпадкова — на вуліцы, ці ў метро. Прымаючы з непадробнай шчырай радасцю апошнія выпускі беластоцкай „Нівы", Генадзь Мікалаевіч заўсёды пытаўся пра справы рэдакцыі, пра беларусаў Беласточчыны, перадаваў зычлівыя прывітанні. Ён сапраўды быў чалавекам усёй беларускай прасторы і жыва цікавіўся рознымі беларускімі праявамі і праблемамі.

Генадзь Бураўкін пражыў насычанае, багатае на яскравыя падзеі і сяброў жыццё. Напэўна таму, што ён абдарыў усіх сваім паэтычным пяшчотным і ласкавым Словам як сапраўдным сонечным цяплом. Ён аддаў Беларусі ўсё, што мог. Беларусь яму не дадала, не скарысталася напоўніцу талентам і дарам Паэта, не аддзячыла належна.

Памёр Генадзь Бураўкін 30 траўня 2014 г. у Мінску. Месца апошняга спачыну ў аддаленым сектары Усходніх могілак беларускай сталіцы. Можа гэта таксама сімвалічна — ён быў, нягледзячы на свае рэгаліі і дасягненні, вельмі сціплым чалавекам. Зусім блізка з магілай Бураўкіна пахаванне выдатнага спартоўца Рамуальда Кліма. Алімпійскі чэмпіён у свой час далей іншых у свеце кідаў молат. Народны паэт Бураўкін вышэй іншых сягаў у далячынь і глыбіню беларускім словам, якое ў яго бруілася, іскрылася, віравала, грала, лашчылася, ззяла і мела непаўторнае хараство і чароўнасць. Застаецца памяць, застаюцца вучні, шматлікія кнігі і песні. Застаецца ягоная геніяльная „Малітва за Беларусь", якая напэўна стане ў адзін ровень з гімнам „Магутны Божа" Наталлі Арсенневай.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Пенсіянеры весела гуляюць

Пасля поўдня 13 жніўня гэтага года ў вялікім нараўчанскім рэстаране „Свойская хата” на беразе ціхаплыннай ракі было шумна. Іграла музыка і плылі песні. Тут сабраліся члены Польскага саюза пенсіянераў (ПСП — у гэты раз з дванаццаці мясцовасцяў Нараўчанскай гміны. Прыехалі школьным аўтобусам з далёкіх і з блізкіх вёсак. Войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч ніколі не адмовіць пенсіянерам у транспарце. Прыехалі і прыйшлі ўсе ахвотныя супольна правесці свабодны час на танцавальнай вечарыне. З пенсіянерамі сустрэліся солтысы з Новага Ляўкова (ніжэйпадпісаны) і з Плянты (Аляксандр Здаsucc.

■ Спевакі-аматары (“Мікрафон для ўсіх”)

Аркестр граў мілагучныя польскія, беларускія, рускія і ўкраінскія мелодыі. Усе добра бавіліся. Ахвотна прынялі ўдзел у конкурсах, якія вяла Ядвіга Карпюк, старшыня Раённага аддзела ПСП у Нараўцы. У адным з конкурсаў вокамгненны рэфлекс паказала Марыя Каліноўская з мясцовасці Бакавое каля Лешукоў. Выйшла пераможцам з групы трынаццаці ўдзельнікаў. Выбіралі шакаладнага караля (стаў ім Аляксандр Леанеўскі з Міклашэва) і каралеву (гэты гонар мела Зося Янцэвіч з Нараўкі).

Сярод пенсіянераў ёсць людзі з музычным талентам. Свае самыя любімыя песні сола прыгожа спявалі Яўгенія Сабалеўская са Скупава, Валянціна Галабурда і Вольга Сачко з Альхоўкі, Рыгор Пякарскі са Старога Ляўкова, Павел Леўша з Нараўкі і Юрый Кісялеўскі са Свінарояў.

Панавала цёплая і сардэчная атмасфера. Некаторыя так і ўспаміналі сваю незабыўную маладосць ды сваіх сяброў. Весела было. Гэта важна, каб не сумаваць у адзіноце і каб яшчэ марыць і не забываць пра шчаслівыя хвіліны жыцця. Гэта дае сілу і ахвоту прадаўжаць свой век. Жнівеньская вечарына надоўга застанецца ў памяці нараўчанскіх пенсіянераў. Ды не толькі іх. Вера Габец з Гайнаўкі была і ў мінулыя гады на вечарынах ПСП у кавярні ў Нараўцы і ў святліцы ў Старым Ляўкове. Заўсёды ў кампаніі са знаёмымі з Сушчага Барка.

А тут вось мігам праляцелі гадзіны сустрэчы і трэба было расставацца. Аўтобус ужо чакаў.

❖Тэкст і фоты Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

■ Былі танцы



■ Шакаладныя каралева і кароль



## Адгаданка

1. сухая шчэпка для распалкі агню, 2. наркам між Ягодам і Берыяй, 3. транспарт па цячэнню ракі, 4. любімы спорт Аляксандра Лукашэнкі, 5. хадзіў у ярме, 6. гарадок між Лідай і Валожынам, 7. возера на ўсходзе Турцыі, 8. штат на захадзе Індыі, раней партугальская калонія, 9. збіральнік грыбоў, 10. жыхарка вулея, 11. цвіце ў верасні, 12. размяклая ад вады глеба, 13. металічны грашовы знак.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | | | | | | | 3 | |
| | | | | | | 4 | 5 | | | 6 | |
| | | | 7 | | | 8 | | | 9 | | |
| | | | | | | | | 10 | | | |
| 11 | | 12 | 13 | | | | | | | | |

Рашэнне: **Па кветках яблыкаў не лічы**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэмянюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 33 нумара**

Бык, век, кат, леў, пах, Чылі, яна.

# 04.09 — 10.09

**(22.03. — 20.04.)** Лепш устрымайся ад высвятлення адносін з любай асобай. Магчымае неразуменне. Не давай падставы для рэўнасці і сам пастаўся больш памяркоўна да слоў і паводзін каханага чалавека. Магчыма, прыйдзецца патурбавацца за паводзіны дзяцей. У канцы тыдня адносіны ў сям'і і з блізкімі будуць складвацца выдатна. Дружна займіцеся навядзеннем парадку ў кватэры, генеральнай уборкай, упрыгожваннем памяшкання. Давядзеш да канца свае справы.

**(21.04. — 21.05.)** Паспрабуй абыходзіць вострыя куты пры зносінах з бацькамі. Не абяцай ім таго, у чым не можаш быць цвёрда ўпэўненым. Разлічваць на тое, што ўдасца знайсці з імі паразуменне, цяпер не варта. Не выключана бытавая бязладзіца з жыллём. Не забывай выключаць ваду і газ. Надыходзіць выдатны час для цікавых і прыемных зносін. Наведвай забаўляльныя мерапрыемствы. З кім-небудзь могуць завязацца любоўныя адносіны, якія маюць шанцы на поспех.

**(22.05. — 22.06.)** У пачатку і сярэдзіне тыдня будзь пераборлівым пры знаёмствах. У поле твайго зроку можа трапіць чалавек, які будзе многае абяцаць, аднак наўрад ці за словам будзе справа. Будзь больш уважлівым пры перамяшчэннях, падчас паездак Не страць дакументаў. Сачы за правіламі дарожнага руху. У канцы тыдня зручны перыяд для вырашэння матэрыяльных праблем. Узровень даходаў узрасце.

**(23.06. — 23.07.)** Могуць узнікнуць непрыемнасці, звязаныя з грашыма. Даходы могуць аказацца меншымі. Зараз будзе цяжэй пералічваць варыянты і прымаць практычныя рашэнні, некаторыя фінансавыя рашэнні могуць пайсці ў страту. Верагоднасць крадзяжу або страты грошай. Пасля будзе больш аптымістычна. Круг знаёмстваў прыкметна пашырыцца. Людзі пацягнуцца да цябе. Не выключаны знаёмствы ў дарозе.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш настроены на пошук паразумення. Аднак лепш будаваць адносіны, абапіраючыся на цвярозы разлік, не мець ілюзій Можаш выкрыць падман партнёра па шлюбе або бізнесе. Не спяшайся рабіць паспешлівых высноў. У канцы тыдня абставіны гарманічныя, старайся займацца бягучымі праектамі.

**(24.08. — 23.09.)** Трымайся далей ад таемных і сакрэтных спраў, асабліва плётак і інтрыг. Любая такая дзейнасць будзе раскрытая. Не рабіце таго, за што пасля будзе сорамна. Цяпер магчымы псіхалагічны дыскамфорт, фобіі, дэпрэсіўныя станы. Паспрабуй не заставацца доўга ў адзіноце. У канцы тыдня сітуацыя радыкальна зменіцца да лепшага. Будуць цікавыя зносіны і новыя прыемныя знаёмствы. Плануй будучыню.

**(24.09. — 23.10.)** У пачатку і сярэдзіне тыдня шмат мітуслівых і непрадуктыўных зносін. Часцей чым звычайна на сувязь будуць выходзіць сябры і знаёмыя. З любімым чалавекам старайся не з'яўляцца ў кампаніі сяброў з-за магчымых канфліктаў паміж імі. Неспрыяльны час для наведвання шумных кампаній і забаўляльных мерапрыемстваў. Павысіцца аўтарытэт у тваёй сацыяльнай групе. Магчымае павышэнне на пасадзе на прафесійнай ніве.

**(24.10. — 22.11.)** Можаш апынуцца ў двайстай сітуацыі. Табе могуць зрабіць прапанову на працы, даручыць нейкае адказнае заданне, дзякуючы якому атрымаецца павысіць свой прафесійны статус. Але становішча ў сям'і і адносіны з блізкімі сваякамі хіба не дазволяць спадзявацца на надзейны тыл. Будзе цяжка размеркаваць час паміж працай і домам. Узмоцніцца цікавасць да духоўных ведаў і рэлігіі.

**(23.11. — 22.12.)** Лепш устрымайся ад далёкіх паездак. У шляху могуць адбыцца розныя непрадбачаныя здарэнні. Не блукай па незнаёмай мясцовасці. Здольнасць канцэнтраваць увагу на прадмеце будзе аслаблена, з-за чаго знізіцца паспяховасць у вучобе. Пасля сітуацыя зменіцца да лепшага, зменяцца прыярытэты. Пазбаўся ад таго, што перашкаджае твайму руху да мэты.

**(23.12. — 20.01.)** Розныя надзвычайныя здарэнні. Надай увагу ўзмацненню мер бяспекі тваіх фінансаў, у электронных аплатных сістэмах лепш змяні паролі. Не кантактуйся з вострымі, калючымі і рэжучымі прадметамі. Пасля сітуацыя палепшыцца. Сямейныя пары ў турыстычнай паездцы добра правядуць час. Паспяхова вырашыш юрыдычныя пытанні.

**(21.01. — 19.02.)** Могуць узнікнуць цяжкасці ў партнёрскіх узаемаадносінах у дзелавым супрацоўніцтве і сямейным жыцці. Будзеш схільны з недаверам і падазронасцю ставіцца да ініцыятыў партнёра. Паспрабуй не рабіць паспешлівых высноў і трымай свае меркаванні пры сабе. Лепш устрымайся ад падпісання якіх-небудзь дагавораў. У канцы тыдня павысь увагу да прафілактычных працэдур, накіраваных на ўмацаванне імунітэту. Можаш перайсці на больш інтэнсіўны рэжым працы.

**(20.02. — 21.03.)** У пачатку і сярэдзіне тыдня могуць узнікнуць праблемы са здароўем. Правільна харчуйся, выключ з рацыёну прадукты з хімічнымі дадаткамі, не ўжывай алкаголю. Строга сачы за якасцю харчавання. Магчымыя непаразуменні ў адносінах з калегамі. У канцы тыдня ранейшыя праблемы страцяць сваю актуальнасць.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# Уладзімір Хлябцэвіч — сын святара з Кленік

У беларускага гісторыка, педагога і праваслаўнага святара Івана Хлябцэвіча (1857-1919) з Кленік Бельскага павета выхоўвалася шасцёра дзяцей. Але найбольш здольнымі раслі два сыны — Яўген і Уладзімір. Яўген Хлябцэвіч быў старэйшы за брата на 10 гадоў. У свой час ён скончыў Духоўную семінарыю ў Вільні і Пецярбургскі ўніверсітэт. Прымаў актыўны ўдзел у літаратурна-грамадскім руху ў Пецярбургу, займаўся бібліятэказнаўствам, перакладамі з беларускай мовы на рускую, абараніў кандыдацкую дысертацыю, быў знаёмы і сябраваў з многімі беларускімі дзеячамі, у тым ліку з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Цёткай.

Пра Яўгена Хлябцэвіча я шмат разоў пісаў у сваіх кнігах. Жыццё і яго творчасць даследаваў таксама літаратуразнавец і архівіст Віталь Скалабан (1947-2011). А вось пра яго малодшага брата Уладзіміра Хлябцэвіча (1894-1917) публікацый і даследаванняў у друку было мала. Але, перш чым згадаць пра яго, хачу пару слоў сказаць пра бацьку Яўгена і Уладзіміра Хлябцэвічаў — Івана Андрэевіча.

Родам Іван Хлябцэвіч (1857-1919) быў з Ваўкавышчыны. Скончыў праваслаўную Літоўскую духоўную семінарыю ў Вільні, вучыўся ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Выкладаў у Жыровіцкім духоўным вучылішчы арыфметыку і геаграфію. Але галоўным яго клопатам і заняткам была слынная бібліятэка Жыровіцкага Свята-Успенскага мужчынскага манастыра. Там зберагаліся рукапісныя беларускія кнігі з адмысловымі ілюстрацыямі, летапісы ў скураных пераплётах і старадрукі. Іван Хлябцэвіч упарадкаваў старажытныя рукапісы, склаў падрабязны каталог, упарадкаваў і сам ашчадна захоўваў гэтыя скарбы. Хлябцэвіч-старэйшы вельмі цікавіўся і гісторыяй Беларусі, меў і літаратурны талент. У віленскіх часопісах ён публікаваў артыкулы на рэлігійныя і гістарычныя тэмы.

У 1897 годзе Іван Хлябцэвіч з сям'ёй пераязджае ў вёску Кленікі Бельскага павета, дзе служыць свяшчэннікам. У Кленіках Хлябцэвічы пражылі 18 гадоў — да пачатку Першай сусветнай вайны, адкуль іх потым выгналі ў бежанства ў расійскі горад Сызрань. Дамоў Хлябцэвічы з Расіі ўжо ніколі не вярнуліся.

Жывучы ў Кленіках, Іван Хлябцэвіч арганізаваў некалькі беларускіх пачатковых школ, спажывецкае таварыства, быў загадчыкам бясплатнай народнай бібліятэкі, наладзіў самыя шчырыя сяброўскія адносіны з мясцовымі сялянамі. Побач з адукаваным бацькам прайшло маленства і юнацтва самага малодшага сына Уладзіміра. Ды і Яўген часта прыязджаў на канікулы дамоў у Кленікі.


Вѣнокъ отца
на могилу сына.
Жертва великой революціи
Краткій
біографическій очеркъ
студента
В. И. Хлѣбцевича.
Весь сборъ ... поступаетъ
въ фондъ на сооруженіе ПАМЯТНИКА
на могилѣ В. ХЛѢБЦЕВИЧА

Першая старонка кнігі Івана Хлябцэвіча пра сына Уладзіміра

Валодзя спачатку вучыўся дома, а пасля ў гімназіі. У 1913 годзе ён скончыў гімназію, а яго брат Яўген — Пецярбургскі ўніверсітэт. І Яўген параіў брату паступаць ва ўніверсітэт. Валодзя паступіў на фізіка-матэматычны факультэт. Там, ва ўніверсітэце, Яўген Хлябцэвіч знаёміць Валодзю з Браніславам Ігнатавічам Эпімах-Шыпілам. Першая сустрэча адбылася ў бібліятэцы, а дакладней каля ўвахода ва ўніверсітэцкую бібліятэку, дзе Браніслаў Эпімах-Шыпіла выпісваў студэнтам чытацкія білеты. Але мала хто тады ведаў, што Браніслаў Іванавіч быў апекуном маладога Янкі Купалы, арганізатарам выдавецкай суполкі „Загляне сонца і ў наша аконца", кіраўніком студэнцкага беларускага гуртка. Прафесар Эпімах-Шыпіла дапамагаў беларусам-студэнтам выбраць свой правільны шлях і абуджаў у студэнтах беларускі дух. Гэта былі незабыўныя сустрэчы і падзеі. З лёгкай рукі Браніслава Эпімах-Шыпілы Уладзімір Хлябцэвіч напісаў этнаграфічны нарыс пра сваю вёску Кленікі. Дарэчы, гэты нарыс на рускай мове друкаваўся ў выданні „Białoruskie Zeszyty Historyczne" (1995, № 2 (4). Ён так і называўся „Село Клеников перед беженством — во время мировой войны". А напісаўся ён аўтарам 17 верасня 1915 года.

Гэты нарыс некалі брат Валодзі, Яўген Хлябцэвіч, перапісаў сваёй рукой. Дзякуючы таму ён захаваўся да нашых дзён і зберагаецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь.

25 верасня 1915 года, пасля таго, як разам з маці і бацькам Уладзімір Хлябцэвіч падаўся з Кленік у бежанства, ён роднаму брату Яўгену пісаў: „Усе вёскі гарэлі пры непрысутнасці нашых людзей. Кнігі (10 скрыняў) закапаны ў вельмі надзейным месцы. Там твае ўсё. Закапвалі я і Маліш. Твае рукапісы пра беларускіх пісьменнікаў і лісты іх тожа былі схаваныя там, у скрынях. Я ведаю дзе..." („Białoruskie Zeszyty Historyczne", 1995, № 2 (4), с. 135).

Гэтыя скрыні ў вёсцы Кленікі на Беласточчыне шмат гадоў шукала настаўніца беларускай мовы і літаратуры Марыя Базылюк (Марылька — як яе ласкава называлі сябры і беларускія літаратары ў Польшчы). У гэтых скрынях захоўваецца невядомы літаратурны скарб Хлябцэвічаў. І Марыя Базылюк яго шукала, а таксама сама даследавала творчасць брата Уладзіміра Хлябцэвіча, Яўгена. Яна нават напісала, калі была студэнткай, магістарскую дысертацыю на тэму „Жыццё і дзейнасць Яўгена Хлябцэвіча на фоне перыяду «Нашай нівы»", якая была апублікавана ў кнізе яе памяці „Марылька" (Беласток 2011). Але так склаўся лёс, што гэтыя скрыні Марыі Базылюк знайсці не ўдалося. Яе зламала хвароба ў 1996 годзе ва ўзросце 38 гадоў. Цікава, якія рукапісы Яўгена Хлябцэвіча ляжаць у гэтых скрынях? Пісьмы якіх пісьменнікаў захоўвае гэты скарб на Беласточчыне? Можа, там лісты ад Янкі Купалы, Цёткі, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Горкага? Ён шчыра з імі сябраваў, сустракаўся, перапісваўся. Цяпер цяжка сказаць, хто той скарб адшукае. І ці адшукаецца ён наогул. Усё ж прайшло з таго часу больш за сто гадоў.

Хлябцэвічы апынуліся аж у расійскім горадзе Сызрань. У пачатку студзеня 1917 года Уладзімір прыехаў да бацькоў на калядныя вакацыі. А 15 студзеня зноў паехаў на вучобу ў Петраград (Пецярбург). Ды і вучыўся ўжо на 4 курсе.




Уладзімір Хлябцэвіч у Кленіках, 23 чэрвеня 1914 г.



Перанясенне цела Уладзіміра Хлябцэвіча з вакзала ў Сызрані ў гарадскі сабор, 19 сакавіка 1917 г.

У Расіі ў гэты час пачынаецца Лютаўская рэвалюцыя. Не стаяў убаку ад яе і Уладзімір. На Васільеўскім востраве ў Петраградзе яшчэ грымелі выстралы. Туды на разведку быў накіраваны Уладзімір Хлябцэвіч, які дзяжурыў у Таўрычаскім палацы. Але хутка іх аўтамабіль трапіў пад абстрэл. Першай была паранена сястра міласэрнасці Алена Шуп. Хлябцэвіч хацеў ёй дапамагчы. Але кулямётная чарга смяротна параніла юнака.

Цела загінуўшага адвезлі да бацькоў у Сызрань. Яго пахавалі 19 сакавіка 1917 года ў „гарадскім садзе на Сімбірскай вуліцы" (цяпер Кузнецкі мост). На пахавіны прыйшлі каля 20 тысяч чалавек.

Пазней у Сызрані назавуць адну з вуліц імем Уладзіміра Хлябцэвіча, якая існуе і сёння. А на яго магіле ляжыць мемарыяльная пліта, якая даўно патрабуе аднаўлення.

Смерць малодшага сына Валодзі бацька Іван Андрэевіч Хлябцэвіч моцна перажыў. Ён пераехаў з горада ў вёску Абшараўка Самарскага павета Самарскай губерні Расіі. Стаў моцна хварэць. Але вёў вялікую перапіску з сябрамі і з землякамі-бежанцамі. Ён напісаў на рускай мове невялікую кніжачку (47 старонак) „Краткий биографический очерк студента В. И. Хлебцевича" і выдаў у Сызраньскай друкарні Журкіна пры фінансавай дапамозе свайго сябра Аляксея Ерамасава.

Іван Андрэевіч Хлябцэвіч пасля смерці сына Валодзі пражыў толькі два гады і памёр 25 ліпеня 1919 года ў Абшараўцы, дзе і пахаваны.

У Расійскім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва ў Маскве (фонды 539 і 1563) захоўваецца шмат дакументаў, звязаных і жыццём і дзейнасцю Уладзіміра Хлябцэвіча. Гэта найперш пісьмы Уладзіміра да сваіх бацькоў, братоў і сясцёр, невядомай спадарыні Вользе, пісьмы сваякоў Уладзіміра Хлябцэвіча невядомай асобе са зваротам „Верачка" ў сувязі са смерцю Уладзіміра, развітальнае пісьмо бацькі Івана Андрэевіча, пісьмо Алены Шуп (сястра міласэрнасці) Івану Андрэевічу Хлябцэвічу пра апошнія хвіліны жыцця Уладзіміра і іншыя. Ёсць у фондах і артыкулы, вершы Уладзіміра Хлябцэвіча. Захоўваюцца і тэлеграмы сваякоў і студэнтаў Петраградскага ўніверсітэта сям'і Уладзіміра Хлябцэвіча з паведамленнем пра яго смерць і са спачуваннямі. Ёсць у фондах архіва і ўспаміны Светавастокава пра Уладзіміра, артыкулы пра яго, выразкі з газет і малюнкі, бо Валодзя быў яшчэ добрым мастаком-партрэтыстам. На вялікі жаль, нікога пакуль з беларусаў гэтыя дакументы пра Уладзіміра Хлябцэвіча не зацікавілі. Ды калі і хто іх даследуе?.. На гэта пытанне сёння цяжка адказаць.



Магіла Уладзіміра Хлябцэвіча ў Сызрані (Расія)

Сяргей ЧЫГРЫН

Фота Сызраньскага музея друкуюцца ўпершыню

ISSN 0546-1960